НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 10 (799) 13 сакавіка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. АднОўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва ў серады

## Малады настаўнік: «Два гады — і я валю»



Аўтарытэт у настаўнікаў ніжэйшы за плінтус. Старонка 5.

## Што чакае Венесуэлу пасля Чавэса?



«Мадура будзе змушаны да радыкальных рашэнняў». Старонка 3.

# 50 тысяч за сотку

Цэны на зямлю пад Мінскам б'юць рэкорды. **Старонка 2.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Набалела

Не перавяліся дзяржаўныя чыноўнікі, якім не дае спакою ўсё беларускае

Адкрыты ліст прафесара Валянціны Лемцюговай намесніку старшыні Мінгарвыканкама Ігару Карпенку. **Старонка 13.**



### Грамадства

«Мужа збіла аўто, і сын перастаў выходзіць на вуліцу»

Жыццё сталічнай сям'і перакрэсліў выпадак. **Старонка 7.**



### Навука

Ці можа чорная дзірка праглынуць Зямлю

Піша астраном Віктар Малышчыц. **Старонка 11.**



### Прырода

Хахулін лёс

Хахулю можна вярнуць назад у нашую прыроду. Але жадання няма!

**Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Развалюху каля Драздоў прадаюць за 750 тысяч даляраў

**Цана зямлі ў раёне «Царскага сяла» дасягнула $50 тысяч за сотку.**

Вуліца Вяснінка — былая вёска — месціцца праз поле ад Драздоў. Ёй, вядома, далёка да бляску і дагледжанасці «Царскага сяла». Тратуары ў Вяснінцы нячышчаныя, дарогі разбітыя, тут і там бачацца закінутыя, а то і напаўразбураныя хаты. Але няхай вас не ўводзіць у зман непрэзентабельны выгляд. Зямля тут каштуе сотні тысяч даляраў.

Вось, напрыклад, звычайны драўляны дамок з цаглянай прыбудовай па адрасе Вяснінка, 9. Участак плошчай 15 сотак, на якім стаіць хата, прадаецца за $750 тысяч. Газ і вада да ўчастка не падведзеныя, але адпаведныя камунікацыі побач ёсць.

Дом №29 па той самай вуліцы выглядае прывабней, на ўчастак плошчай 12,5 соткі падведзены газ. Гаспадар прадае жытло пад знос. Цана — $520 тысяч.

Рыэлтары тлумачаць дарагавізну зямлі на Вяснінцы суседствам Драздоў, дзе атрымалі дамы ўсе высокія чыноўнікі і блізкія да ўлады бізнэсоўцы, спартоўцы і дактары. Там соткі каштуюць яшчэ даражэй. Гэтае месца — ласы кавалак. Зусім побач Дразды, гандлёва-забаўляльныя цэнтры, Заслаўскае вадасховішча. Акрамя таго, зручнае транспартнае злучэнне з цэнтрам горада.

Сярод пахіленых халупаў на Вяснінцы ўжо паўстаў добры дзясятак дарагіх катэджаў. Некаторыя з іх пакуль хаваюцца за кронамі старых садоў і вясковых хат. Але выглядае, што гэта часовыя нязручнасці для новых жыхароў вуліцы.

**Сямён Печанко**




І гэта каштуе 750 тысяч даляраў.






На некаторых пляцах ужо выраслі сучасныя катэджы.

**Афіцыйна**

Паводле Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама, тэрыторыя жылой сядзібнай забудовы ў межах вул. Вяснінка — зав. Вяснінка — пр. Пераможцаў будзе забудаваная пад жытло і аб'екты грамадскага прызначэння.

Уздоўж праспекта Пераможцаў захаваецца паркавая зона. Старыя сядзібы Вяснінкі не падлягаюць зносу.

У пачатку мая мусіць быць скончаная 1-я чарга комплекснай рэканструкцыі кварталаў сядзібнай забудовы.

## Сцісла

**Не даражэй за 25 тысяч еўра**

Лукашэнка ўвёў абмежаванні на набыццё службовых легкавых аўто. За перавышэнне ўстаноўленага заканадаўствам кошту будзе накладацца штраф у памеры ад 600 да 1 000 базавых велічынь.

**Інвалід, якога збілі ў метро, прызнаны неадэкватным**

Тэрмін расследавання крымінальнай справы па артыкуле «хуліганства» за збіццё інваліда ў мінскім метро працягнуты да 11 красавіка. У збіцці абвінавачваецца 17-гадовы мінчук.

**8 гадоў за размяшчэнне парнаграфіі «Укантакце»**

Мінчук выкладваў на сваю старонку ў сацсетках выявы і відэа парнаграфічнага зместу цягам трох гадоў — у тым ліку і ў час тэрміновай службы ў войску. Цяпер заведзеная крымінальная справа, пагражае да 8 гадоў турмы.

**У расійскай арміі могуць з'явіцца «навуковыя роты»**

Мінабароны Расіі разглядае магчымасць стварэння «навуковых рот», у складзе якіх таленавітыя студэнты разам з выкладчыкамі будуць выконваць навукова-тэхнічныя працы ў інтарэсах ваеннага ведамства, заявіў міністр абароны РФ Сяргей Шайгу.

**Сычоў перайшоў у «Дынама»**

Мінскі клуб узяў у арэнду ў маскоўскага «Лакаматыва» нападаючага Дзмітрыя Сычова. Некалі ён быў адным з найлепшых фарвардаў Расіі, але ў апошнія гады заўважна здаў.

**Машыністы метро атрымліваюць да 9 мільёнаў**

Сярэдняя зарплата работнікаў Мінскага метрапалітэна — 4,1 млн рублёў, паведаміў намеснік начальніка метрапалітэна Аляксандр Цімафееў. Машыністы атрымліваюць найболыш.

ЗП

## Рэкамендуем

**Паміж сваімі — толькі па-свойму**

«Я не буду больш уступаць у спрэчкі і звадкі з тымі, хто хоча, каб беларушчыны не было на свеце. Бо гэта б азначала, што я магу абмяркоўваць сваю будучыню з тымі, хто хацеў бы, каб мяне не было. Але я ёсць». Піша Сяргей Харэўскі.

**Самае чытанае на nn.by за 6 — 12 сакавіка 2013**

1. Аляксандр і Коля Лукашэнкі са слязьмі на вачах развіталіся з Чавэсам + фота, відэа
2. Эмацыйны зварот Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі са смерцю Чавэса
3. Лемцюгова: Не перавяліся дзяржаўныя чыноўнікі, якім не дае спакою ўсё беларускае
4. Сталін паміраў як сабака
5. Уга Чавэс памёр
6. «У Польшчы парадак, а ў Беларусі бардак»
7. Трохмясцовыя купэ ў цягніках замест чатырохмясцовых: катастрофа
8. Звольніць Чарнякевіча загадаў асабіста Сямён Шапіра
9. Загінуў вядомы расійскі акцёр Андрэй Панін
10. Саннікаў на «Белсаце»: «[Мяне катавалі] сапраўды акупанты»

# Што чакае Венесуэлу пасля Чавэса?

«Мадура будзе змушаны да **радыкальных рашэнняў**».

Беніньё Аларсон — дырэктар аддзялення палітычных навук Каталіцкага ўніверсітэта імя Андрэса Бэла ў Каракасе — ведае Мадура асабіста. «Выбары ён выйграе, але законаў эканомікі не адменіць».



Аляксандр і Мікалай Лукашэнкі і Махмуд Ахмадзінеджад на развітанні з Чавэсам у Каракасе.

**Беніньё Аларсон:** У Каракас з'ехалася прыкладна 55 кіраўнікоў дзяржаў. Лукашэнка быў не ў цэнтры ўвагі. Ахмадзінеджад, Кастра цікавілі СМІ нашмат больш. Беларусь увогуле мала цікавіць венесуэльцаў.

**«Наша Ніва»: У Беларусі звярнулі ўвагу, што спачатку было абвешчана, што ў Каракас выправяцца Шэйман і Сямашка, якія каардынавалі беларускія эканамічныя праекты ў гэтай краіне. Але праз дзень было абвешчана, што паедзе асабіста кіраўнік Беларусі. Чаму было так вырашана?**

**БА:** Я не ведаю дэталяў, але венесуэльскае МЗС пастаралася сабраць у Каракасе як найболып прэзідэнтаў. Венесуэльскія ўлады ствараюць саюзы з падобнымі да сябе рэжымамі. Яны шукаюць падтрымкі за мяжой перад выбарамі, якія адбудуцца 14 красавіка.

**«НН»: А што, хіба ўладам патрэбна на тых выбарах нейкая адмысловая падтрымка? Падаецца, што на эмацыйнай хвалі пасля смерці Чавэса яны і так лёгка перамогуць.**

**БА:** Сапраўды, менавіта таму выбары прызначаны так спешна. Такая стратэгія выйгрышная. Больш за тое, прыдумалі і яшчэ адну тэхналогію. Як вы ведаеце, прагучала ідэя змясціць цела Чавэса ў Нацыянальным пантэоне, побач з целам Сімона Балівара. Але ў канстытуцыі Венесуэлы прапісана, што цела выбітнага чалавека можа быць перанесена ў Пантэон толькі праз 25 гадоў пасля яго смерці, каб, так бы мовіць, памерлы «прайшоў выпрабаванне часам». Каб змясціць Чавэса ў Пантэон проста зараз, трэба ўнесці змены ў канстытуцыю. І вось Кангрэс — а яго кантралююць чавісты — сёння абмяркоўвае гэтае пытанне. Збіраюцца прызначыць рэферэндум, і ён найхутчэй што адбудзецца адначасова з выбарамі. Такая тэхналогія дазволіць ператварыць гэтыя выбары ў галасаванне за Чавэса, а не за Мадура, прыцягнуць да галасавання ўсе тыя 8 мільёнаў чалавек, якія падтрымалі Чавэса на апошніх выбарах.

**Валюта Венесуэлы:** балівар.

**Заробак** беларусаў, якія працуюць у Венесуэле: каля 30 мільёнаў рублёў (будаўнікі, перакладчыкі).

**Партыя Чавэса** называецца Адзіная сацыялістычная партыя Венесуэлы. Яна абапіраецца на бедных і беспрацоўных.

**Кааліцыя апазіцыі** называецца Дэмакратычнае адзінства. Яна абапіраецца на сярэдні клас і багатых.

**Лідар апазіцыі:** Энрыке Капрылес Радонскі, губернатар штата Міранда. 40 гадоў. Радонскі — гэта яговае прозвішча па маці, продкі якой былі яўрэямі з Беларусі (прозвішча Радонскі можа быць звязанае з мястэчкам Радунь, што ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці).

**Біч Венесуэлы** — злачыннасць. Пры Чавэсу лічба забойстваў вырасла ўтрая, да 57 на 100 000 насельніцтва штогод.

**Венесуэла ў параўнанні з Беларуссю**

| | Венесуэла | Беларусь |
|---|---|---|
| Крыніца багацця | нафта | нафта (расійская) |
| Плошча, тыс. кв. км | 916 | 207 |
| Насельніцтва, млн | 29 | 9,4 |
| ВУП на душу насельніцтва ў пераліку на купчую здольнасць | каля $14,000 | $15,000 |



Беніньё Аларсон

## Апазіцыя мала што можа

**«НН»: Што ў такой сітуацыі можа зрабіць апазіцыя?**

**АБ:** Акно магчымасцяў для апазіцыі вельмі малое. Чавэс, можна сказаць, усё яшчэ жывы. Наўрад ці апазіцыя пераможа.

**«НН»: Але эканамічная сітуацыя? Мы чулі, што адбылася дэвальвацыя...**

**АБ:** Так, афіцыйны курс балівара знізіўся амаль на 50%. Але ж майце на ўвазе, што чорны курс балівара ўсё адно ніжэйшы яшчэ ў 4 разы, таму дэвальвацыя мала паўплывала на цэны. Асноўныя прадукты не падаражэлі, бо дзяржава моцна субсідуе цэны на іх. Людзі не задумваюцца пра эфект гэтага.

**«НН»: А пра культ асобы таксама не задумваюцца? Тэлетрансляцыя стварала дзіўнаватае ўражанне: гэтыя скандаванні ў зале, маханні шабляй, урэшце, бальзамаванне цела — мы ў Еўропе тое праходзілі ў XX стагоддзі.**

**АБ:** Краіна падзеленая надвое. І, дарэчы, тыя людзі, якія стаялі ў чарзе да цела Чавэса, не заўжды яговыя прыхільнікі. Многія хадзілі на развітанне проста з цікавасці. Мне не было калі, але я б таксама схадзіў да труны, калі б чарга была меншая.

## Кубінцы ўсюды

**«НН»: Апазіцыя давярала падліку галасоў пры Чавэсу?**

**БА:** Цэнтральная выбарчая камісія ў Венесуэле фармуецца з чатырох чалавек ад урада і аднаго — з апазіцыі. Мясцовыя выбарчыя камісіі маюць малое значэнне, бо галасаванне ў Венесуэле электроннае і падлік аўтаматычны. Апазіцыя не мела прэтэнзій да падліку галасоў. Адзінае, што выклікала прэтэнзіі — нявыгадная для апазіцыі нарэзка акруг і поўны кантроль Чавэса над дзяржаўнымі СМІ.

**«НН»: Ці будзе розніца ў палітыцы Мадура і Чавэса?**

**БА:** Розніца ў палітычным дыскурсе будзе нязначная. Мадура быў вельмі блізкім да Чавэса. І, акрамя таго, Мадура будзе вельмі блізкім да Кастра. Кубінцы будуць заставацца ў краіне: трэнеры, настаўнікі і, вядома, спецслужбісты. Мадура будзе залежным ад гэтых дарадцаў, якія будуць падказваць яму, як захаваць кіраванасць краінай.

**«НН»: Ці можна сказаць, што кубінцы кантралююць Венесуэлу?**

**БА:** Нельга сказаць, што кантралююць. Гэта ўзаемазалежнасць Куба залежная ад венесуэльскай нафты. А ў Венесуэле ўплыў кубінскіх дарадцаў на ўсе сферы жыцця вялікі. Прыходзіш у пашпартны стол — там кубінец сядзіць. Прыходзіш у бюро рэгістрацыі дамоваў — там таксама кубінец. Кубінцы працуюць нават у міністэрстве абароны! Шмат дактароў-кубінцаў працуе — і многія з іх адначасова збіраюць інфармацыю.

**«НН»: Рэжым можа стаць рэпрэсіўным?**

**БА:** Кошт рэпрэсій і кошт цярпімасці — зменныя велічыні ў сітуацыі перадачы ўлады. Палітыка Мадура будзе залежаць ад таго, з якім адрывам ён пераможа на выбарах. У аўтарытарных краінах — мы назіралі гэта ў Беларусі, Азербайджане — моцныя рэпрэсіі пачынаюцца тады, калі ўзнікае пагроза ўладзе...

Чавэс перамагаў без падтасовак. Ці здольны на такое Мадура? Харызматычнага лідара ў краіне больш няма.

## Мадура ўмее дамаўляцца

**«НН»: Як бы Вы апісалі псіхалагічны профіль Мадура?**

**БА:** Я сустракаўся з Мадура пару гадоў таму. Па-першае, улічвайце, што гэта чалавек без вышэйшай адукацыі. Ён працаваў у метро, пасля кіроўцам аўтобуса, пасля стаў прафсаюзнікам. Яговы моцны бок — што ён умее дамаўляцца з людзьмі. Ён добры перамоўшчык. Свой палітычны вопыт ён набыў як спікер парламента — быў добрым спікерам, як міністр замежных спраў і як віцэ-прэзідэнт. Слабасць яго як палітыка, што ў яго няма вопыту палітычных кампаній. Ён не ўмее так камунікаваць з людзьмі, як умеў Чавэс, не ўмее гаварыць на публіку. Ён прывык працаваць за кулісамі, а харызмы ў яго няма.

**Globovision**

Венесуэльская апазіцыя мае доступ да адзінага незалежнага тэлеканала Globovision, але ягоны ўласнік прыняў рашэнне прадаць канал, бо ён не акупляецца. Купляе канал адзін з суўласнікаў венесуэльскай біржы. І ёсць падазрэнні, што за новым уласнікам стаяць людзі з урада. Цяперашні ўласнік заявіў, што передача канала адбудзецца пасля выбараў, каб гэта не паўплывала на іх вынік. У наступным годзе ў канала сканчаецца ліцэнзія на вяшчанне.

## Калі цэны на нафту ўпадуць

**«НН»: Беларусь рэалізуе ў Венесуэле некалькі вялікіх праектаў. Гэта здабыча нафты ў даліне ракі Арынока. Гэта таксама разбудова сістэмы супрацьпаветранай абароны краіны. І, нарэшце, будаўніцтва жытла і аграгарадкоў. Якім, па-Вашаму, будзе лёс гэтых праектаў?**

**БА:** Звычайныя венесуэльцы мала пра гэта ведаюць і яшчэ менш разумеюць. Пра гэта ніхто тут не гаворыць. Гэта не тэма выбарчай кампаніі.

**«НН»: Калі цэны на нафту ўпадуць, падзе і Мадура?**

**БА:** Так, падзе. У краіне рэальнае беспрацоўе 20%! Афіцыйная лічба беспрацоўных — 15—16%, але ў рэальнасці яна вышэйшая. Палова людзей працуе ў шэрай эканоміцы. Сярэдні заробак складае 400 даляраў па афіцыйным курсе і 100 даляраў па курсе чорнага рынку. Менавіта таму цяперашні ўрад спрабуе наладзіць адносіны з прыватным сектарам.

Такое становішча, як цяпер, не можа захоўвацца доўга. Патрэбны будуць радыкальныя рашэнні. Яны могуць адбыцца ў другой палове гэтага года. Мадура можа перамагчы на выбарах, але не можа адмяніць законаў эканомікі.

Гутарыў Мікола Бугай

Фотафакт



**Ірына Халіп сустрэлася з мужам**

Некалькі дзён асуджаная ў Беларусі журналістка правяла ў Варшаве, дзе сустрэлася са сваім мужам — экс-кандыдатам у прэзідэнты, палітуцекачом Андрэем Саннікавым. Шмат хто думаў, што Халіп пасля дазволу на выезд можа таксама застацца за мяжой. Але яна вярнулася на Радзіму.

«Галоўнае было — правесці хоць некалькі дзён разам з мужам. Вось мы і правялі. Яшчэ ў Варшаве змагла пабачыць сяброў. Тую ж Наталлю Радзіну, якую не бачыла больш за два гады, Дзіму Бандарэнку, Уладзіміра Кобеца, Дзіму Бародку. Усіх пабачыла, і гэта было цудоўна», — кажа Ірына.

## Захараў сыходзіць. Бародзіч з ім?

У беларускім хакеі чакаюцца **вялікія перамены**.

«Галоўны трэнер «Юнацтва» Міхаіл Захараў пакідае пасаду галоўнага трэнера клуба», — паведамляе афіцыйны сайт мінскай каманды. «Гэта рашэнне самога спецыяліста і не абумоўлена ніякімі іншымі абставінамі, акрамя жадання завяршыць трэнерскую кар'еру на высокім прафесійным узроўні. Міхаіл Захараў гатовы адказаць на ўсе пытанні на будучай прэс-канферэнцыі», — гаворыцца ў заяве клуба.

Не выключана, што гэта вынік словаў Аляксандра Лукашэнкі наконт стану ў беларускім хакеі. Яшчэ перад абвяшчэннем пра адстаўку Захараў прагназаваў вялікія змены ў мінскім «Дынама».

«Бародзіч, Торбін, Матушкін паляцелі...» — сказаў Захараў, хаця афіцыйнага рашэння па «Дынама» яшчэ не агучана.

Юрый Бародзіч — старшыня БФСА «Дынама». Генерал-маёр, які працаваў у КДБ, узначальваў спецгрупу «Альфа» (1992—1995), Службу аховы Лукашэнкі (1995—1998). Кіраваў федэрацыяй хакея.

Торбін і Матушкін — гэта менеджары «Дынама».

Пытанне, ці застанецца на сваім крэсле сённяшні старшыня Федэрацыі Яўген Ворсін. Хакейная зборная не трапіла на Алімпіяду, а «Дынама» не выйшла ў плэй-оф КХЛ.

**Зміцер Панкавец**

# Дзень Волі — ад Батанічнага саду

Адзначаць 95-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР дэмакратычныя сілы вырашылі не 25-га, а 24 сакавіка. Бо нядзеля.

У Мінгарвыканкам пададзена заяўка, што шэсце пачнецца а 12-й гадзіне з пляцоўкі ля ўвахода ў Батанічны сад. Шэсце плануецца правесці па праспекце Незалежнасці, вуліцы Сурганава да плошчы Бангалор. Там а 14-й гадзіне пачнецца мітынг.

Заяўку падпісалі прадстаўнікі Партыі БНФ, Руху «За Свабоду», аргкамітэта па стварэнні Партыі БХД і Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Мінгарвыканкам пакуль не даў адказу.

**ЗП**

# Фалклендскія астравы прагаласавалі за Брытанію

98,8% удзельнікаў рэферэндуму на астравах падтрымалі захаванне статусу заморскай тэрыторыі Брытаніі, супраць незалежнасці, якую тут лічаць нерэалістычнай для такой малой зямлі.

У галасаванні ўдзельнічалі 1672 выбарцы. Гэта 92% тых, хто мае права голасу. Супраць захавання статус-кво прагаласавалі ўсяго 3 асобы.

Аргенціна называе астравы Мальвінскімі і лічыць іх сваімі.

У 1982 годзе Вялікабрытанія разграміла Аргенціну ў кароткай, але крывавай вайне за астравы. Буэнас-Айрэс аддаў вайскоўцам загад заняць выспы, гэта стала нечаканасцю для Лондана. Тагачасная прэм'ерка Маргарэт Тэтчэр дзейнічала рашуча. Яна адправіла на Фалклендыфлатылію і высадзіла дэсант. Тэхналагічная перавага брытанцаў аказалася важнейшай за блізкасць аргенцінскіх партоў.

Тая параза спрычынілася падзенне дыктатуры ў Аргенціне.

**Мікола Бугай**

## Пачаўся збор подпісаў за помнік Каліноўскаму ў Мінску

Ініцыятары прапануюць **паставіць яго на Усходзе**, каля Усіхсвяцкай царквы.

Ініцыятарам збору выступае моладзевая грамадская арганізацыя «Альтэрнатыва» (зарэгістраваная ў Латвіі), якую ўзначальвае былы маладафронтавец Алег Корбан.

Сабраныя подпісы разам з адпаведным зваротам актывісты накіруюць у Мінгарвыканкам, Савет дэпутатаў, а таксама ў Міністэрства культуры.

# Прэзідэнт Сербіі ў Мінску

12 сакавіка ў Мінску знаходзіўся прэзідэнт Сербіі Таміслаў Нікаліч. Прыляцеў на невялічкім самалёце з Брусэля, дзе быў напярэдадні. Сустракаў яго ў аэрапорце міністр замежных справаў Уладзімір Макей. Цікава, што Сербія далучылася да санкцый ЕС супраць лукашэнкаўцаў, увяла адпаведныя візавыя абмежаванні. Пры гэтым нацыяналіст Нікаліч палічыў патрэбным наведаць Мінск з візітам, хоць рашэнні Еўрасаюза прадугледжваюць забарону на кантакты з беларускім кіраўніцтвам.

**ЛМ**



## «Шпіёна» Гайдукова пакінулі пад следствам да 8 красавіка

23-гадовы слесар наваполацкага «Нафтана» працягвае ўтрымлівацца ў турме КДБ ад лістапада па падазрэнні ў здрадзе дзяржаве. Маці атрымлівае ад Андрэя лісты з няволі.

«Там усё побытавае: што перадаць і што здароўе нармальнае. Але мне радасна, што даходзяць хоць гэтыя некалькі радкоў. Следства цягнецца ўжо пяты месяц, а яснасці ніякай. Нават зразумець немагчыма, за што Андрэя вінавацяць: з усіх дапытаных і з адваката ўзялі падпіску аб неразгалошванні таямніцы следства. А ў гэтай справе — усё таямніца!» — кажа маці.

**ЛМ**



# Макея могуць пусціць у Еўропу

Еўрапейскі саюз можа адмяніць візавыя санкцыі ў дачыненні да міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея. Пра гэта заявіў намеснік міністра замежных спраў Польшчы Ежы Памяноўскі.

Кажучы пра магчымую адмену візавых санкцый у дачыненні да Макея, намеснік кіраўніка польскага МЗС растлумачыў, што такі варыянт разглядаецца для таго, каб «захаваць мінімальныя каналы сувязі, якія неабходныя для падтрымання адносінаў з любой краінай».

**ЛМ**

# Малады настаўнік: «Два гады — і я валю»

**Мінскі настаўнік гісторыі Анатоль расказаў «НН» пра сённяшнюю школу, вучняў, аўтарытэт прафесіі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Я скончыў Педуніверсітэт, жыву з бацькамі ў Мінску. Размеркавалі мяне ў звычайную школу ў «спальніку». Не буду называць якую. Я не баюся адміністрацыі, нічога са мной не зробяць. Аднак праблем падкінуць могуць, а ў мяне на іх няма часу.

Па-першае, лічу, што нядрэнна зрабіць на першым курсе педагагічную практыку «для азнаямлення». Калі б я на першым курсе даведаўся, што значыць быць педагогам, то на другім курсе мяне б не было. Аднак у школу трапіў толькі на апошнім курсе. Як практыканту спадабалася. Потым настаўніца гісторыі сышла ў дэкрэт, і мне прапанавалі выходзіць на працу з новага года. Афіцыйна працую з сярэдзіны пятага курса.

Малы заробак не быў сакрэтам, але я паважаў прафесію. Думаў: прыходзіш у клас — і можна столькі цікавага расказаць, столькімі шляхамі! Мне ўзгадваўся фільм «Таварыства мёртвых паэтаў». Бо гісторыя — такі прадмет, дзе можна дыскутаваць аб палітыцы, культуры, рэлігіі. Я не ўлічыў адзін фактар — людзей, з якімі мне прыйдзецца працаваць.

Першыя два месяцы былі задавальненнем: рабіў урокі як мага цікавейшымі. Калегі ж адразу параілі быць строгім. Я тыдні тры-чатыры намагаўся, але потым зразумеў, што не магу пастаянна некага «жучыць», не магу корчыць з сябе «жорсткага дзядзьку». І тут панеслася...

### «Што б я не прыдумляў, меня чакаў правал»

Цяпер у мяне чатыры класы: два «дрэнныя», адзін «сярэдні» і адзін «добры» — так дзялю. У «добрым» класе бачна, што дзецям цікава вучыцца, яны ўважліва слухаюць, рыхтуюцца. У дзяцей з гэтага класа ёсць нейкія мэты, планы. І добра, што гэты клас у мяне апошні ў раскладзе — пасля урокаў там аднаўляецца вера ў чалавецтва і я іду дадому ўзрушаны. Але такі клас адзін.

Спачатку я спісваў няўдачы на адсутнасць досведу. Але потым зразумеў: што б я ні рабіў, мяне чакае поўны правал. Я спрабаваў сучасныя методыкі, намагаўся зрабіць заняткі цікавымі і нефармальнымі. Але ў лепшым выпадку працавалі чалавекі чатыры. Астатнім, прабачце, абсалютна пофіг.

У восьмым класе палова вучняў чытае... па складах! У мяне ледзь сківіца на стол не звалілася. А калі натыкаліся на складанае слова, «заліпалі» секунд на 10. Тады я зразумеў, што яны не могуць падрыхтавацца да ўрока, бо вучням банальна цяжка прачытаць 7—8 старонак параграфа. А яшчэ і запомніць штосьці трэба.

Затым я стварыў суполку «Укантакце» (усё адно гэты сайт забірае большасць часу школьнікаў), куды посціў інфармацыю па пройдзеных тэмах, знаходзіў нейкія цікавосткі, рабіў «фотажабы», скідаў спасылкі на сусветныя навіны, каб банальна пашыралі кругагляд. Добрую музыку туды дадаваў. Бо сучасныя густы дзяцей — ціхі жах. Іх куміры — Рома Жолуд, Анжэла Лондан; слухаюць дзеці бязглузды рускі рэп. Але нават такі падыход не спрацаваў. Мая ініцыятыва ніяк не адбілася на навучанні. Наадварот, з'явілася нейкае панібрацтва.

У выніку вярнуўся да стандартнага ўрока — ён хоць нейкім чынам працуе. Дзеці гуляюцца проста на ўроках, раскрываюць свой багаты ўнутраны свет у сацсетках.

### «Калі што — вінавата школа»

Неўзабаве пасля пачатку маёй кар'еры калега сказала: «Ходзяць чуткі, што вы гей». Я быў злёгку шакаваны такой навіной. Аказалася, дзеці знайшлі фота «Укантакце», на якім я заціснуты між ног маёй дзяўчыны (хоць з фота не зразумела, чые ногі). Пад фотаздымкам жартаўлівы каментар: «Ну і хто гэты шчаслівчык?» Дзеці самі знайшлі, не прамарудзілі з распаўсюдам інфы.

Затым я пабываў «разбэшчвальнікам непаўналетніх». Дзеці знайшлі маё з сябрам відэа, дзе я граю на гітары аголены. Ну як аголены — з голым торсам, а потым усё закрыта гітарай, як у Міхалка ў «Зорачках». У адміністрацыі мяне адчыталі, што, маўляў, вы ж настаўнік, нельга так рабіць... Прабачце, але гэта парушэнне недатыкальнасці майго прыватнага жыцця, гарантаванага хаця б пунктам 7.8 кантракта. Пурытанскі YouTube дазволіў відэа, ды сходзіце на любы пляж — не такое пабачыце.

Гэта вельмі «па-нашаму»: «забіць» на дзяцей, даць ім неабмежаваны і бескантрольны доступ да сеціва, да «Укантакце» з тэрабайтамі порна, аднак у выпадку чаго вінавата школа, настаўнікі... Усе, акрамя бацькоў.

Ужо потым я даведаўся пра іншую гісторыю: выкладчыца з'ездзіла ў адпачынак і выклала ў сацсеткі свае фота ў купальніку. Праз гэта падняўся скандал, настаўніца ледзь пазбегла звальнення.

### Занядбаныя дзеці

Неяк дырэктар выклікае мяне і кажа: «Мне тэлефануюць бацькі, скардзяцца, што вы не можаце справіцца з класам ». Як высветлілася, дзеці наскардзіліся бацькам, што я не магу кантраляваць клас, «складваю ручкі» і праз гэта яны — увага! — не ведаюць гісторыю і атрымліваюць дрэнныя адзнакі!

Я не забараняю ні бацькам, ні

## У восьмым класе палова вучняў чытае... па складах!

адміністрацыі прыходзіць на ўрокі, нават ухваляю гэта. Але больш за год працы прыйшлі толькі аднойчы! У мяне быў вучань, добры і разумны хлопец, толькі гаманкі — пытаўся пра маё жыццё, пра ўсё на свеце. На нейкім уроку ён актыўнічаў, я пагрукаў па стале і папрасіў не размаўляць. Тое пачула класная і патэлефанавала бацькам. На наступны дзень да мяне прыбегла маці хлопца, стала распытваць пра сына, каб дапамагчы яму з праблемамі.Падумайце: адзін раз! На пастаянныя двойкі і тройкі ў астатніх вучняў па ўсіх прадметах — нуль рэакцыі.

### Ніжні ярус піраміды

У мяне ёсць вучні, якія за год не адказвалі ўвогуле. Гэта іх не надта хвалюе. Яны маюць сваю тройку ці чацвёрку. Я спытаў, ці можна ставіць двойку за год, каб некаторых лайдакоў пакінуць на другі год. Адказалі: «Ні ў якім разе!» Бо дзесяцібальная сістэма была спецыяльна зроблена, каб можна было паставіць «4» за год, хутчэй давесці вучня да 9 класа — а там ён ужо не праблема школы.

Неяк я вырашыў цікава расказаць пра будызм, нарыў дадатковага матэрыялу. Расказваю, і тут паднятая рука: «Прабачце, а навошта нам гэта трэба?» Ну, кажу, гэта не дапаможа вам перажыць апакаліпсіс, не сагрэе вас у зімнім лесе. Такія веды проста патрэбны, каб быць разумным. Аднак пасля такога пытання я проста выпаў у асадак.

Дзеці разбэшчаныя. Яны жывуць на ніжніх узроўнях піраміды патрэбаў паводле Маслоў, у сытасці ды бяспецы. У іх ёсць тэлефоны, планшэты, камп'ютары, ёсць сябры віртуальныя і рэальныя — усё для камфортнага існавання. На культуру, мастацтва, самаразвіццё збольшага пляваць. Я сто разоў казаў: «Мне да аднаго месца, што вам гісторыя да аднаго месца. Калі вы не можаце пераступіць праз сябе, каб раз-другі вывучыць і атрымаць «сем», як вы далей выжываць будзеце?» Але ж ім — што гарохам аб сцяну.

### «Як пішуць Укантакце, так і ў жыцці»

Пішуць, дарэчы, таксама, як і Укантакце — «паток розуму» без знакаў прыпынку і элементарнай пісьменнасці. Замест манчжураў у кантрольнай з'явіліся «вузкавокія» (а чаму б не, Старажытны Кітай праходзім!), замест уладара Бабура — «бамбук».

Аўтарытэт у настаўнікаў ніжэй за плінтус. Калі сустракаўся з былымі аднакласнікамі, я вельмі радаваўся, што я настаўнік, а не які-небудзь менеджар . Я ж вучу дзяцей, у маіх руках уплыў на будучыню. Я магу не толькі скардзіцца, бо мне выпаў шанец паспрабаваць нешта змяніць. Я ўсведамляю, што я не Рон Кларк, не Макаранка, але я мог бы быць добрым дасведчаным педагогам. Мой бацька з вёскі, ён сам працуе настаўнікам. У яго ўяўленні настаўнік — гэта аўтарытэт. Але ў Мінску адукацыяй нікога не здзівіш, а многія ўспрымаюць настаўніка як няўдачніка, які не «ўмее зашыбаць бабло».

Матэрыяльнай зацікаўленасці і перспектыў — нуль. Мы з маёй дзяўчынай аднагодкі. Яна, як і я, вучылася на бюджэце. Толькі на праграміста. Працаваць мы пачалі адначасова. Яна пачала з 500 даляраў, я з 1,5 мільёна. Зараз яна зарабляе 1000 даляраў. Я — 1,5 мільёна. Нават калі б атрымаў вышэйшую катэгорыю, працаваў на дзве стаўкі і цягнуў класнае кіраўніцтва, мог бы атрымаць мільёны чатыры.

Настаўнікі ў маёй школе — гэта «старая гвардыя» і моладзь. Моладзі каля 30%, яны «адбываюць» размеркаванне. Чуў нават ад старых настаўніц, што «лепш я пайду ў гатэль пакаёўкай, буду атрымліваць тыя ж грошы, але нервы не буду траціць». Пакуль я малады, пакуль штосьці ўмею і магу, трэба нешта мяняць. Таму два гады — і я валю.

**Запісаў Кірыла Хілько**

**А як у вас у школе? Настаўнікі і вучні, пішыце на nn@nn.by**

# «Сталінка» насупраць рэзідэнцыі каштуе $2,1 мільёна

Рэйтынг **самых дарагіх кватэр** у кожнай з абласцей краіны.

Нерухомасьць у Беларусі даражэе ўслед за ростам заробкаў. Сярэдняя цана квадратнага метра ў сталіцы вось-вось пераадолее сымбалічную мяжу ў $1500. Рэальная цана ўгодаў ніжэйшая на $30—60, аднак расьце і яна.

Паводле зьвестак Нацыянальнага кадастравага агенцтва, па выніках 2012 кошт квадратнага метра кватэр у Мінску склаў у сярэднім $1372. Па гэтым паказчыку сталіца апярэджвае іншыя гарады краіны ледзь не ўдвая.

**Самыя дарагія гарады Беларусі**

па кошце нерухомасьці на другасным рынку (за 2012 год), цана ў далярах за кв. метр

1. Мінск 1372
2. Гродна 796
3. Брэст 796
4. Салігорск 773
5. Віцебск 740
6. Гомель 728
7. Магілёў 691
8. Маладэчна 678
9. Жодзіна 674
10. Ліда 618
11. Наваполацк 601
12. Баранавічы 585
13. Барысаў 584
14. Жлобін 565
15. Полацк 565
16. Пінск 557
17. Бяроза 538
18. Слуцк 536
19. Мазыр 528
20. Ваўкавыск 523

Самая дарагая сталічная кватэра — двухузроўневы цагляны асабняк агульнай плошчай 300 м², які ўтварыўся шляхам абʼяднаньня дзьвюх «сталінак» на Вайсковым завулку. Гэта раён плошчы Перамогі, наўпрост насупраць рэкордна дарагой кватэры знаходзіцца гасцявая рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі. Ахвотных выкласьці два мільёны даляраў не бачна, таму ўласьнікі патроху скідаюць цану.

Зрэшты, у Мінску няма праблем з прапановай новабудоўляў. Сярэдняя цана квадратнага метра ў іх складае $1400, але можна адшукаць як «элітныя», так і параўнальна недарагія прапановы (каля $1200).

Бюджэтныя новабудоўлі ў сталіцы могуць канкураваць з камэрцыйным жыльлём у рэгіёнах. Забудоўшчыкі ў абласных цэнтрах просяць каля $1000 за квадратны метр. Дзяржаўныя будтрэсты тым часам будуюць панэльныя дамы для чаргавікоў па $600—650. Гэта танней за сярэднія цэны ў гарадах.

Сярод астатніх гарадоў Беларусі нерухомасьць даражэйшая на захадзе краіны, у Брэсьце і Гродне, — па $796 за м², аднак колькасьць прададзеных кватэр у горадзе на Нёмане большая. Дарэчы, самая дарагая кватэра ў Гродне каштуе $280 тысяч. Гэта трохпакаёўка плошчай 140 м², пабудаваная пяць гадоў таму ў раёне аўтавакзала і Скідзельскага рынку. Высокая цана дасягаецца за кошт унутранага аздабленьня — два санвузлы, джакузі, мэбля, убудаваныя шафы...

Брэсцкі рэкардсмэн, чатырохпакаёўка такой самай плошчы, прадаецца за $225 тысяч. Скураная мэбля, дубовы паркет,



Гомель. За гэтую кватэру з падвясной столлю просяць $225000.



Гродна. Гэтая трохпакаёўка каштуе $280000.

падлога з падагрэвам... Кватэра знаходзіцца на ўезьдзе ў горад з боку Мінска, каля Мухаўца.

Салігорск, горад з самым высокім сярэднім заробкам, абагнаў тры абласныя цэнтры. У горадзе «Беларуськалія» кватэры прадаваліся па $773 за м². І гэта ўнікальны выпадак для Беларусі — сярэдні месячны заробак ($740 у сьнежні ў раёне) прыблізна роўны кошту квадратнага метра. Да такой раўнавагі імкнуцца ў заходніх краінах. А вось самая дарагая кватэра ў Салігорску каштавала не больш за $90 тысяч.

Кватэры ў Віцебску і Гомелі ідуць прыкладна ў адной вагавай катэгорыі ($740 і $728 за метр адпаведна). Вось толькі ў паўднёвым горадзе цана за трохпакаёўку з ружовым санвузлом на праспэкце Леніна складае $225 тысяч, а ў паўночным самая дарагая кватэра каштуе ўсяго $125 тысяч. Праўда, трохпакаёўка на Гагарына прадаецца без аздабленьня — голыя сьцены.

Нарэшце, у Магілёве сярэдняя цана квадратнага метра зафіксавана на адзнацы $691. Горад ненашмат адарваўся ад буйных райцэнтраў. Самая дарагая кватэра ў ім каштуе $200 тысяч. Гэта пяціпакаёўка на Ленінскай агульнай плошчай 200 квадратных метраў.

Ягор Марціновіч



Мінск. Вялікія грошы плацяць за месца дома.



Брэст. Гэтая чатырохпакаёўка прадаецца за $225000.

## Пустыя ўчасткі пад Мінскам прадаюць па $70 тысяч

Як **двухпакаёўку** ў спальным раёне.

Зямельныя надзелы пад Мінскам заўсёды карысталіся попытам. Аднак цяпер цана б'е ўсе рэкорды.

Зямельны ўчастак плошчай 0,15 га пасярод Бараўлянаў (некалькі кілямэтраў на поўнач ад Мінска) на адкрытым аўкцыёне каштаваў... 600 мільёнаў рублёў! Гэта каля $70 тысяч. Як тлумачаць у сельсавеце, такая высокая цана атрымалася, бо да ўчастка ўжо праведзеныя ўсе камунікацыі. «Можа, там нейкае адметнае месца?» — «Ды не, проста ўчастак пасярод вёскі». Ахвотных заплаціць шалёныя грошы пакуль не знайшлося.

Цяпер за $70 тысяч прадаецца ўчастак у Раўбічах. Гэта непадалёку ад Бараўлянаў. Туды таксама праведзеныя камунікацыі.

Звыклая цана на аўкцыёне на пустыя ўчасткі ў суседніх прэстыжных вёсках утрая меншая. Але пра электрычнасьць з газам давядзецца клапаціцца самому.

ЯМ

### Сьцісла

**Стаўка рэфінансаваньня зьніжаецца да 28,5%**

Гэта першае зьніжэньне за паўгода, раней яна была 30% гадавых. У плянах ураду да канца года апусьціць яе ўдвая, аднак высокая інфляцыя можа сарваць такі плян. Стаўка рэфінансаваньня ў Беларусі застаецца адной з самых высокіх у сьвеце, бо Беларусь мае самы высокі ў сьвеце (пасьля Зімбабвэ) узровень інфляцыі.

**«Белрасбанк» перайменаваны ў «Альфа-Банк Фінанс»**

У канцы 2012 банк зьмяніў уласьніка, цяпер ім стала расейская банкаўская група «Альфа-Банк». Найбуйнейшы яе акцыянэр — мільярдэр Міхаіл Фрыдман.

**«Камволь» пераробяць пад выставу**

Частку абсталяваньня фабрыкі плянуецца перанесьці ў ААТ «Сукно» і на падобнае прадпрыемства ў Слоніме, а вызваленыя плошчы перададуць у распараджэньне мінскім уладам для разьмяшчэньня выставачнага комплексу. Гэта будзе танней за захаваньне «Камволя».

**EPAM Systems за год зарабіў $55 мільёнаў**

Найбуйнейшая праграмісцкая кампанія Цэнтральнай і Усходняй Эўропы EPAM Systems апублікавала фінансавыя вынікі дзейнасьці ў 2012 годзе. Выручка кампаніі летась склала $433,8 мільёна, а чысты прыбытак — $54,5 мільёна. Колькасьць супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам беларуса Аркадзя Добкіна дасягнула 8495 чалавек. Большасьць з іх працуе ў Мінску, на тэрыторыі Парка высокіх тэхналёгій.

ЯМ

# «Мужа збіла аўто, і сын перастаў выходзіць на вуліцу»

Жыццё сталічнай сям'і **перакрэсліў выпадак.**

Джыпер Сцяпан Трубачоў 16 снежня вяртаўся са спаборніцтваў па джып-трыале. На МКАД спыніўся, каб выцягнуць з кювета чужое аўто. Калі размотваў буксіровачны трос, трапіў пад колы іншай машыны: «Форд» на галалёдзе занесла і кінула на Сцяпана.

Засталіся жонка з хворым сынам. Пакуль быў жывы Сцяпан, ён і забяспечваў сям'ю. Цяпер яны маюць патрэбу ў дапамозе.

«НН» пагаварыла з Наталляй Трубачовай.

**Паралічыць ахвяраванні сям'і джыпера можна на наступныя рахункі:**

Беларускія рублі:

ЗАТ «Мінскі транзітны банк»

МФА 153001117, УНП 100394906

Рахунак: 3014900105848,

Атрымальнік: Трубачова Наталля Канстанцінаўна

Прызначэнне: аказанне сацыяльнай дапамогі дзіцяці-інваліду.

Даляры ЗША:

Joint-stock company «Minsk Transit Bank» (JSC «MTBank»)

SWIFT: MTBKBY22

Address: 6-a, Partizansky Av., 220033 Minsk, Republic of Belarus

Рахунак: 3014900105835

Атрымальнік: Trubachova Natalya

Прызначэнне: аказанне сацыяльнай дапамогі дзіцяці-інваліду.

WEB-MONEY:

Даляры Z277128411448,

Еўра E365617761171,

Расійскія рублі R210173023192,

Беларускія рублі B520830698850.

Яндэкс-грошы:

Нумар рахунка 410011701648877.

e6ab36e16dca8c74329d76a2b12 0784e_w800_h566_q95 — Вёска Казлоўшчына (Пастаўскі р-н). На дальнім тле — капліца-пахавальня князёў Друцкіх-Любецкіх.

**«Наша Ніва»: Што з Вашым сынам?**

**Наталля Трубачова:** Сцяпанку 13 гадоў і ён аўтыст, які не размаўляе. Ён хлопчык вялікі і высокі. І калі пачынаюцца праблемы з малымі — адно, калі падлетак скандаліць — іншае.

Раней мы хадзілі ў карэкцыйны клас з іншымі дзецьмі. Але нашы паводзіны пачалі пагаршацца, і давялося перайсці на індывідуальныя заняткі. Мы трымаліся рэкамендацый медыкаў, але гэта не давала выніку. І немагчыма было вызначыць што і як, паколькі сын не размаўляе і не паказвае, дзе баліць. Па паводзінах даводзілася вызначаць. А пасля лекаў па карэкцыі паводзінаў ён станавіўся прыглушаным, але з тымі ж праблемамі. Мы не ведалі, што рабіць.

**«НН»: І няма надзеі на выздараўленне?**

**НТ:** Сцяпан знайшоў інфармацыю пра біямед (альтэрнатыўны метад лячэння). Аўтызм — не столькі псіханеўралагічнае захворванне, а парушэнне працы ўсіх сістэм: і страўнікава-кішачнага тракту, і імунітэт па-іншаму працуе. Методыка развітая за мяжой, а ў нас спецыялістаў няма. Можна кансультавацца асобна з гастраэнтаролагам, асобна з гематолагам, неўролагам... А тут працэсы ўзаемазвязаныя. Даводзіцца самім ва ўсім разбірацца.

Адзін са складнікаў сістэмы біямеду — дыета. Трэба пэўныя прадукты: не ўсё ў нашай краіне можна знайсці, многае нятанна. Але гэта пачало даваць паляпшэнне. І мы сышлі нарэшце ад псіхакарэктараў (неўралептыкаў). І дзіцяці стала лягчэй.

А пасля смерці Сцяпана мы засталіся адны. Я не магу Сцяпанку вывесці на вуліцу. Да трагедыі ён у асноўным гуляў з татам. Праз паўтара тыдні пасля трагедыі ён выйшаў. І зноў замкнуўся.

**«НН»: Сын замкнуўся праз смерць таты?**

**НТ:** Паколькі ён не размаўляе, немагчыма вызначыць. Так здавалася. Ён глядзеў у акно, выглядаў таткаву машыну. Было заўважна, што гэта чаканне. Ён спакойны, усміхаецца, займаецца сваімі рэчамі, але адмаўляецца апрануцца і выйсці.



Сцяпанка і Сцяпан — сын і бацька.

**«НН»: Ці шмат людзей ужо адгукнулася на просьбу дапамагчы?**

**НТ:** Сцяпан, канечне, быў чалавекам камунікабельным. Але я не ўсведамляла, якая колькасць людзей адгукнецца. Я ўсім дзякую за ўдзел у нашым лёсе.

**«НН»: Вам патрэбная дапамога не толькі матэрыяльная. У чым маеце яшчэ патрэбу?**

**НТ:** Патрэбна дапамога людзей, хто мог бы прыглядзець за сынам. Каб гэта былі канкрэтныя людзі: бо кожны раз тлумачыць спецыфіку нашага жыцця цяжка. Па кватэры дапамога трэба. Усё надта спецыфічнае: нават закупка прадуктаў...

**«НН»: Колькі вы пражылі са Сцяпанам у шлюбе?**

**НТ:** Летась 20-годдзе адзначылі. Мы пазнаёміліся ў студэнцкім атрадзе. Абое мінчукі. Я вучылася на прыкладной матэматыцы ў БДУ, а Сцяпан у радыётэхнічным інстытуце. Пачатак 1990-х. Мы, скажам так, былі аматарамі рамантыкі: ездзілі на Поўнач. І калі збіралі атрад тынкоўшчыц для працы ў Цюмені, нам патрэбныя былі некалькі хлопцаў для фізічнай працы. Мы знайшлі двух, адным з іх быў Сцяпан.

У нас студэнцкі шлюб. Доўга станавіліся на ногі. Сцяпан пачаў захапляцца камп'ютарамі, стаў спецыялістам.

**«НН»: А з чаго пачалося ў яго захапленне джыпамі?**

**НТ:** Некалькі гадоў таму ён пачаў ездзіць як глядач на спаборніцтвы па джып-трыале. Захацеў сам паспрабаваць. І калі купляў новую машыну, гэта быў джып. Хутка ўцягнуўся і стаў адным з арганізатараў спаборніцтваў. Ён заўсёды адгукаўся на просьбы дапамагчы. Як і ў той раз адбылося...

**«НН»: Жанчына, што збіла Сцяпана, звязвалася з Вамі?**

**НТ:** У мяне было шмат праблем з пераходам на «новыя рэйкі», і я не бачылася з ёй. Але літаральна днямі мы дамовіліся сустрэцца і пагаварыць.

**«НН»: Суд быў?**

**НТ:** Справу перадалі ў суд, але я позву не атрымлівала. Следчы прыязджаў да нас, хацеў дапытаць Сцяпанку — сын жа быў у машыне падчас трагедыі. І я ездзіла забіраць яго з месца ДТЗ...

Сцяпан быў цудоўным бацькам. Здараецца, што мужчынам цяжэй перажыць, калі з дзіцём нешта не так. Часам мамы застаюцца адны. А Сцяпан моцна любіў Сцяпанку, стараўся, каб сын жыў паўнавартым жыццём: вазіў на спаборніцтвы з сабой. Муж шмат ведаў па лячэнні сына. Спецыялістаў шукаў, чытаў замежную літаратуру па-англійску. А цяпер усё на мне. Пакуль не ведаю, як будзе далей, як арганізаваць наша жыццё, каб усё паспець.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

**Карэспандэнт атрымаў заданне**

# Спілавалі 13 дрэваў, засталося яшчэ 30

Чаму на Глыбоччыне масава **ссякаюць лесапасадкі.**

Краязнаўца з Глыбокага Уладзімір Скрабатун напісаў: «Нядаўна праязджаў з сябрам вёску Казлоўшчына (Пастаўскі раён). Ведаю, што там вялізны парк на колішняй сядзібе Друцкіх-Любецкіх. Агромністыя дрэвы у тры абдымы!

Ну каму замінаў гэты парк! Едзем, а ўздоўж дарог ляжаць «чурбаны» велічынёй з БелАЗаўскія колы. Суцэльны лесапавал! Пад'язджаем да Мосара. І тут пілуюць!

Ну, я б зразумеў, каб гэта была Берасцейшчына, дзе роўнядзь да далягляду: сей, жні, пускай камбайны... А тут жа — Паазер'е: пагоркі, азёры, балоты, яры, рэчкі, камяні.

Расла нейкая сасна ўзбоч рэчкі, муліла некаму вочы — спілавалі. А бацяну дзе гняздо рабіць».

Мы патэлефанавалі старшыні Казлоўшчынскага сельскага савета Валерыю Зубарову. Мужчына падрабязна апісаў, што трэба зрабіць, каб легальна ссекчы дрэва, нібы загадзя рыхтаваўся. Зрэшты, як ён прызнаўся, «увесь раён падняла на вушы» ў сувязі з высечкай дрэваў.

Высветлілася, што яшчэ мінулай зімой жыхары трох вёсак — Казлоўшчына, Асінагарадок і Луцк-Казлоўскі — пісалі заявы ў сельсавет з просьбай высечкы дрэвы — «ствараюць аварыйную сітуацыю для пабудоваў». Хто канкрэтна пісаў — невядома, але старшыня запэўніў, што заяваў было шмат, жыхары самі запаўнялі, без аніякіх «просьбаў» з боку мясцовага начальства.

«Ніхто не прасіў. Усе баяцца гэтых дрэваў. Таму яны прымушаюць сельсавет, каб мы гэту работу праводзілі», — кажа старшыня.

Затым разам з ляснічым Варапаеўскага лягаса, Аляксеем Балаем, яны аб'ехалі ўсе гэтыя дрэвы. І той заключыў: дрэвы аварыйныя. Раённыя чыноўнікі далі дабро.

Непасрэдна працу выконваюць «камунальшчыкі» і «дарожнікі». На сённяшні дзень яны спілавалі ўсяго 13 дрэваў, засталося яшчэ 30.

«Гэта складаная праца: трэба вялікая вышка, бензапіла з вялікім ланцугом, бо дрэвы тоўстыя, да двух метраў у дыяметры. А ў некаторых выпадках трэба адключаць лінію, тады прыязджаюць электрыкі», — кажа Зубароў.

У вёсцы Мосар іншая сітуацыя. Справа ў тым, што ссечаныя сосны знаходзяцца на тэрыторыі касцёла. А ў такіх выпадках уласнік сам вырашае лёс насаджэнняў. Пасля артыкула Скрабатуна і тэлефанаванняў у Мосар выехаў начальнік Глыбокскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Аляксей Протас.

«Зямля, дзе зрэзалі сосны, — гэта зямля касцёла, прыватная ўласнасць», — пацвердзіў Протас. Калісьці нябожчык ксёндз Булька набыў гэты надзел пад будаўніцтва кшталту аграсядзібы для паломнікаў.

«Магчыма, калі б Булька быў жывы, ён бы не даў гэтыя сосны зрэзаць...Прыгожыя, даволі моцныя сосны былі», — кажа Протас.

Мы ўдакладнілі ў яго, ці сапраўды хтосьці з касцёла прасіў ссекчы сосны: «Наколькі я ведаю, касцёл звяртаўся ў нашу экалогію. Удакладнялі, якім чынам яны маюць права выдаляць дрэвы». Гэтак начальніку міжраённай інспекцыі сказалі і ў аддзеле экалогіі (начальнік — Міхаіл Кміта), і ў сельсавеце (старшыня — Віктар Карман).

Праверка па Мосары яшчэ працягнецца.

**Аксана Рудовіч**

# Трагічна загінуў расійскі акцёр Андрэй Панін



Цела 50-гадовага акцёра знайшлі раніцай 7 сакавіка ў яго кватэры ў Маскве. Выглядала, што ён паваліўся і стукнуўся галавой.

Панін праславіўся ролямі ў серыялах «Каменская», «Мяжа. Таёжны раман», «Марш Турэцкага» і «Брыгада». Таксама ён выконваў ролі ў «Вяселлі» Паўла Лунгіна, «Кіроўцы для Веры» Паўла Чухрая, «Стомленых сонцам-2» Мікіты Міхалкова, «Морфіі» Аляксея Балабанава, «Жыццё забавамі поўным» Пятра Тадароўскага, «Атрутах, ці Сусветнай гісторыі атручванняў» Карэна Шахназарава.

Пакуль следства не выказала меркаванне, ці гэта няшчасны выпадак, ці забойства. Медэксперты кажуць, што раны на целе акцёра не маглі быць выпадковымі. Перад смерцю ён спрабаваў накласці на галаву павязку, а таксама выклікаць дапамогу.

Пахавалі Паніна на Траякураўскіх могілках Масквы, побач з яшчэ адным акцёрам — Уладзіславам Галкіным.

**Сямён Цыбульскі**

# Пяцёра беларускіх спартсменаў трапіліся на допінгу

**Дзіўныя рэчы** робяцца ў айчыннай лёгкай атлетыцы. Чарговы допінг-скандал.

Ужо можна заблытацца, каго са спартсменаў і калі лавілі на ўжыванні допінгу. Пачнём па парадку. Пасля Алімпіяды-2008 у Пекіне малатабойцы Іван Ціхан і Вадзім Дзевятоўскі трапіліся на павышаным тэстастэроне ў крыві.

Атлеты ўзялі бронзу і срэбра адпаведна. Тлумачылі, што такія паказчыкі ў іх праз тое, што перад стартамі елі бычыныя яйцы, а таксама ўстрымліваліся ад сэксу. Медалі ім адстаяць удалося, бо допінг-пробы былі ўзятыя з памылкай.

Перад Алімпіядай у Лондане нечакана стала вядома, што ў Івана Ціхана станоўчая допінг-проба за яшчэ Алімпіяду-2004 у Афінах. Медаль забралі і аддалі яго... Вадзіму Дзевятоўскаму.

На самой лонданскай Алімпіядзе пагарэла штурхальніца ядра Надзея Астапчук. Пасля яе трэнер Яфрэмаў нібыта прызнаўся, што падсыпаў атлетцы забаронены прэпарат у каву. Хаця выглядала гэта не надта пераканаўча.

Цяпер яшчэ новыя выкрыцці. На Чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы-2005 у Парыжы станоўчымі вынікі на допінг аказаліся ў тых самых Ціхана і Дзевятоўскага, Астапчук, а таксама яшчэ аднаго штурхальніка ядра Андрэя Міхневіча.

Фактычна такія скандалы ставяць крыж на рэпутацыі беларускіх «цяжкіх» відаў лёгкай атлетыкі, у якіх мы былі традыцыйна моцнымі.

Выглядае, што 8 гадоў таму выявіць допінг яшчэ не маглі, але з новай тэхнікай гэта стала магчыма.

Яшчэ стала вядома, што 8 лютага падчас алімпійскай кваліфікацыі допінг знайшлі ў крыві хакеіста мінскага «Дынама» Андрэя Міхалёва. Ён прымаў прэпарат метылгексанамін. Гэты стымулятар павышае працаздольнасць, паляпшае настрой, дапамагае ў спальванні тлушчу.

**Зміцер Панкавец**

З беларускіх спартсменаў на допінгу трапляліся веласіпедыстка Таццяна Шаракова, плыўчыха Аляксандра Герасіменя, цяжкаатлет Андрэй Арамнаў (курыў марыхуану), канькабежка Анжаліка Кацюга, хакеіст Руслан Салей, футбаліст Валянцін Бялькевіч, біятланіст Вадзім Сашурын.



**Перамогі Івана Ціхана здабываліся нячэсным шляхам.**



**Фотафакт**

Жонка міністра замежных справаў Беларусі Вера Палякова-Макей 11 сакавіка правяла сустрэчу з жонкамі кіраўнікоў дыпламатычных місій і прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый з нагоды Дня жанчын. Мерапрыемства адбылося ў Тэатрыстудыі кінаакцёра. На сцэне быў прадстаўлены спектакль «Сродак Макропуласа», у якім грае Вера Палякова-Макей. Дэтэктыў у дзвюх дзеях пастаўлены паводле п'есы чэшскага драматурга Карэла Чапека.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Сляза і хлопчык

...Які ўсё ж містычны дзень — 5 сакавіка!

Яно, магчыма, засталося б недарэчнай выпадковасцю — памерці дзень у дзень са Сталіным. Але ж ці выпадковасць, калі і праз 60 гадоў усё паўтарылася з такой дакладнасцю, быццам нічога за тыя гады ў свеце не змянілася, ды і гадоў тых быццам і не было...

Ёсць, зразумела, і ментальныя адрозненні. Тут палахліва-стрымана маўчалі — там спявалі. Тут захлыналіся ў плачы — там пляскалі ў далоні.

Але ж і праз 60 гадоў данеслася на супрацьлеглы канец свету і выранілася пякучая сляза на шкляную, нібыта пад лупай часу, труну.

Адзіны, хто не плакаў, не пляскаў у далоні і не спяваў — бялявы хлопчык у ладным касцюмчыку, што моўчкі туліўся да бацькі ля той труны. Чаму ён не плакаў, як бацька? Чаму ён не плакаў, як некалі плакаў я?

...Першую слязу на смерць правадыра я пусціў у сем гадоў ад нараджэння, калі памёр Жданаў. Тоўсты чалавек у наглуха зашпіленым фрэнчы, з бабскім тварам пад прылізанымі ў радок валасамі, здаваўся мне надзвычайна добрым, якімі, мусіць, здаюцца ў дзяцінстве ўсе правадыры. Але плакаў я, памятаю, не ад жалю — ад страху. Дакладней, ад жалю да самога сябе. Бо што ёсць страх, як не шкадаванне самога сябе? Жалобная музыка, дзяржаўна-журботны голас Левітана, рыданні сястры і цёплая далонь маці: «Не плач, сынок, у нас ёсць Сталін...»

Вядома, я ведаў, што Сталін ёсць. Але менавіта з таго моманту я ўпэўніўся ў тым, што ён ёсць назаўжды. І з ім ніколі і нічога не трэба баяцца — ні за сябе, ні за сястру, ні за маму з татам, ні ўвогуле за жыццё...

Праз пяць гадоў я спытаў у старога краўца, ці бачыў ён калі-небудзь Сталіна. «...чыў, не ...чыў...» — прашамкаў кравец, не выпускаючы са сціснутых губ вострыя, пад плешкай, быццам малыя цвічкі, іголачкі.

Быў студзень 1953-га. Стары кравец з чырвонымі павекамі вымяраў мяне ўздоўж і ўпоперак, каб пашыць першыя ў маім жыцці «дарослыя» штаны з чорнага шэвіёту.

«А я хутка пабачу Сталіна!» — «Стой, не круціся!» — раздражнёна адзываўся стары кравец, утыкаючы ў калашыну тоўстую шарштаку...

Так, нам усім гаварылі, што мы пабачым самога Сталіна. Нам — гэта вучням музычнай школы, з якіх быў створаны хор, што рыхтаваўся да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве.

Як я чакаў гэтага моманту! Нават сніў...

5 сакавіка абрынулася ўсё. Якая дэкада, калі разам і назаўсёды зніклі ўсе гукі дзяцінства: задзірысты горн і барабанны дробат піянерскіх маршаў, вясёлыя званочкі першых пасляваенных трамваяў, залпы салютаў з ракетніц над драўлянай царквой... Здавалася, скончылася жыццё. Мабыць, таму так здавалася, што дарослыя ў тыя сакавіцкія дні неяк па-асабліваму шкадавалі дзяцей. Аднак чым больш шкадавалі, тым глыбей зарываўся я па начах у падушку, чакаючы канца свету, то бок вайны. Усе вакол гаварылі пра вайну. І пра тое, як жа мы пераможам у ёй без Сталіна?..

> **«Не плач, сынок, у нас ёсць Сталін...»**

А потым пачуўся воплеск. За ім яшчэ і яшчэ — некалькі кароткіх вясёлых воплескаў, што разарвалі пануруую цішыню ў класе, куды мы вярнуліся пасля некалькіх жалобных дзён. І раскацістае, ракатаючае «ну, бр-р-р-атцы тр-р-русы, хутка май!» І «братцы трусы» загаманілі, застукалі партамі, зашапацелі сшыткамі — хутка май, значыць, іспыты, што ладзіліся тады кожны год, прыбраныя дзяўчынкі ў бантах, бэз...

Я не любіў матэматыку, але любіў нашага матэматыка Ізраіля Майсеевіча Лібо. У яго былі вузлаватыя, з кароткімі пальцамі, але вельмі вялікія рукі, мясісты нос на парытым глыбокімі маршчынамі твары, маркотныя лупатыя вочы з цяжкімі павекамі і велічэзны лоб, над якім кучараваліся рэдкія, сівыя з блакітам, валасы...

Пляснуў у далоні на тым першым пасля смерці правадыра ўроку, і адразу зніклі страх і жах ад хуткага і непазбежнага небыцця...

...Я ўглядаюся ў таго бялявага хлопчыка ля чужой, пад шклом, труны. Ці зразумее ён калі-небудзь, у якой калысцы нарадзілася і ўзгадавалася бацькава сляза?

І па кім яна насамрэч — па чалавеку, які прасіў не даць памерці, ці па крыважэрным цмоку, што, здавалася б, памёр 60 гадоў таму назаўжды? Дзень у дзень.

А мо ў той слязе хаваўся страх? Вось жа не паспелі «камандантэ» забальзаміраваць, а ўжо — «атруцілі». Хто б сумняваўся...

...Дэкада тая ўсё ж адбылася. У 1955, праз два гады. У мяне захаваўся фотаздымак: вось яна, сцэна Вялікага тэатра ў Маскве, і мы на ёй — хлопчыкі ў белых кашулях і ў чорных, якія сталі караткаватымі, штанах з шэвіёту, дзяўчынкі з бантамі і ў белых фартухах...

«Радзі-і-і-ма мая дарага-а-а-я-я...» — саліруе Сярожа Мінчонак, бялявы хлопчык з празрыстым крынічным голасам.

А мы падхопліваем: «Красу-у-йся і ў шча-а-а-сці жыві...»

# «Рэспубліка» Паліны

Спявачку Паліну Рэспубліку называюць **галоўнай надзеяй і адкрыццём** беларускай музыкі. Хто яна такая, чым жыве і цікавіцца, чытайце ў гэтай гутарцы.



**Паліна Паланейчык** (Паліна Рэспубліка)
Нарадзілася ў 1994 у Мінску. Спявачка, студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура тэлебачання», пачала свой музычны шлях з перамогі ў «Бардаўскай восені-2011».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Спявачка Паліна Паланейчык, яна ж Паліна Рэспубліка, жыве ў «сталінцы» каля Нямігі. Разам з бацькамі і двума братамі яны туляцца ў двухпакаёвай кватэры. Казаць пра ўласны пакой не даводзіцца. Разам з Палінай «пражываюць» рыбкі, піяніна, розныя скрыначкі, гітары, цацкі братоў, кнігі, столікі, мяшкі-фатэлі, карціны і фота. Мы зазірнулі ў маленькую «рэспубліку» Паліны.

«Мы заўсёды мяняем месцамі мэблю ў пакоі. Я не магу доўгі час жыць у адной атмасферы. Дарэчы, мы нарэшце пабудавалі новую кватэру. А гэта кватэра не наша, і мы не маем магчымасці тут нешта змяняць. У гэтай кватэры мы нават гарэлі два разы. Пад намі гарэла кватэра, а ўвесь дым падымаўся да нас. Пасля, месяцы два, вельмі складана жыць і страшна. Новая кватэра за два прыпынкі адсюль. Там у мяне будзе ўласны пакой, дзе я хачу зрабіць сабе студыю», — кажа Паліна.

Пакой, дзе жыве Паліна, падобны да вялікага склада. «Зараз я вам яшчэ нешта цікавае пакажу, — Паліна ідзе да паліцы і дастае кубак з медалямі. — Я гуляла ў жаночы футбол. Нават медалі ёсць. У той час, калі я ім займалася, гэты від спорту добра фінансаваўся і мы шмат куды ездзілі».

Побач з футбольнымі кубкамі і медалямі стаіць немаленькая калекцыя духоў. «Гэта адна з жаночых штучак, якія я вельмі люблю. Я магу заказаць хаццца ў пах. Водар — гэта тое, што вельмі добра захоўвае атмасферу».

Акрамя духоў, гаспадыня пакоя мае слабасць да музычных інструментаў. Гітара ў яе не адна, але іх шмат не бывае.

**«Наша Ніва»: А песні ты адразу на гітару кладзеш?**

**Паліна Рэспубліка:** Не, пішу песні спачатку на піяніна, а пасля перакладаю на гітару.

**«НН»: Паліна, ты маеш безліч канцэртаў, выступаў, праектаў. Стамляешся?**

**ПР:** Ёсць такая тэма, што напрыканцы года нічога не хочацца: ні канцэртаў, ні людзей. Магу падчас навучання даць сабе дзень адпачынку і нікуды не пайсці, а проста спаць. Былі думкі, што ўсё, скончылася мая музычная кар'ера, надакучыла ўсё.

**«НН»: Ты вучышся на дзённым у Акадэміі мастацтваў, як паспяваеш спалучаць творчасць і вучобу?**

**ПР:** Бывае так, што заняткі пачынаюцца а 9-й раніцы, а 16-й яны сканчаюцца, лячу дадому, прычэсваю валасы, і на канцэрт. Добра, што творчасць музычная і творчасць у Акадэміі неяк спалучаюцца. Нягледзячы на шматлікія выступы у час сесіі, я здала яе вельмі добра і буду імкнуцца атрымаць зніжку на аплату вучобы, бо плаціць цяжка.

## БТшнікам сказала, што буду размаўляць па-беларуску, дык кінулі слухаўку

**«НН»: Калі б у сутках было гадзін 36, куды б патраціла свой вольны час?**

**ПР:** Мне хочацца, каб хапіла часу запісаць дыск, зняць кліп, не закінуць курсы па французскай мове, узяць абанемент у басейн. Я б хацела, каб у мяне было больш часу катацца на роварах. Хочацца стаць ва ўсім прафесіяналам, бо шмат чаго раблю, але не раблю нічога прафесійна. У мяне цяпер такі вар'яцкі рэжым, што я кладуся спаць а 4-й ночы. Часам ноччу я чытаю і вывучаю французскую мову. Будзільнік можа званіць некалькі разоў, але пакуль матуля не прыйдзе і не пабудзіць — не прачнуся.

**«НН»: Узнікала жаданне пажыць адной?**

**ПР:** Апошнім часам — не. Страшна ўявіць. Я прадчуваю, што ўся мая маразілка будзе ў спаржавай фасолі. Нішто ў жыцці я так моцна не люблю.

**«НН»: А мужа чым будзеш карміць?**

**ПР:** У мяне ёсць мара пра «Цёцю Валю» — уяўны мой персанаж, — якая будзе прыходзіць і гатаваць мне боршч. Ну я магу гэта рабіць, але столькі спраў іншых. Я гатую, калі ў мяне ёсць натхненне.

**«НН»: Чаму вывучаеш французскую?**

**ПР:** Гэта мая мова, яна мне блізкая і пакуль не надакучыла.

**«НН»: Хацела б наведаць Францыю?**

**ПР:** Так, вядома. Але гэта часта ўпіраецца ў грошы. Думала паехаць туды на гэтых канікулах, але вырашыла, што паеду, як падвучу мову лепш..

### «Мой хлопец вельмі добра сябруе з маім бацькам»

**«НН»: Закранаючы тэму кахання. У цябе ёсць хлопец?**

**ПР:** Так. Мы пазнаёміліся каля года таму. Жыве ён за пяць хвілін ад мяне, але пазнаёміліся ў Маладзечне. Прычым ехаць туды я не збіралася, мяне выцягнула сяброўка. Пазнаёміліся выпадкова. Як аказалася, у нас з ім вельмі шмат супольных знаёмых.

**«НН»: Замуж не збіраешся?**

**ПР:** Пакуль не. Як толькі мы пазнаёміліся, я сказала, што ў маі трэба жаніцца. Я люблю сама ўсё прапаноўваць. Ну пасля ўсё замялася, бо сказана было ў жарт.

**«НН»: У цябе столькі прыхільнікаў і фанатаў, як жа да гэтага ўсяго ставіцца твой хлопец?**

**ПР:** Калі я нешта кажу на гэты конт, то ён пачынае рыкаць *(смяецца)*.

**«НН»: Не ўзнікала думак з'ехаць з Беларусі і пашукаць лепшай долі за яе межамі?**

**ПР:** Не, навошта? Пакуль не маю прычын. Тут мае сваякі, тут маё ўсё. А там мяне ніхто не чакае. Але хочацца ездзіць за мяжу, каб прывезці адтуль нешта лепшае сюды. Я атаясамляю Беларусь з чалавекам. Мы не можам сказаць, за што мы любім таго ці іншага чалавека, тое ж самае і тут. Каханне і любоў нельга выказаць словамі. Я яе проста адчуваю, і яна натхняе мяне.

**«НН»: А калі пафантазіраваць і надаць Беларусі вобраз чалавека, якой бы яна была?**

## Для мяне Беларусь — жанчына, моцная, хоць і сціплая

**ПР:** Гэта ўсё адно, што надаваць рысы Богу. Паспрабую. Для мяне Беларусь — жанчына. Яна моцная, хоць і сціплая. За ўсе яе пакуты мусіць быць у яе жыцці шчасце. Яна такая прыгажуня.

### «Не пайду на беларускае тэлебачанне»

**«НН»: Паліна, калі б цябе запрасілі на беларускае тэлебачанне, пайшла б?**

**ПР:** Калі запросяць на беларускае тэлебачанне, я не пайду туды, бо мне нецікава. Мяне аднойчы запрасілі на тэлеперадачу «АРТіШОК». Я ім тэлефаную і кажу, што буду размаўляць на беларускай мове. Мне ў адказ агрэсіўна: "Як? Вы не можаце гаварыць на расейскай мове?» — «Не магу!» — кажу. Дык гэтая журналістка кінула слухаўку. Пасля ператэлефанавала і пагадзілася.

**«НН»: Паліна, табе хто-небудзь дапамагае прасоўвацца ў творчасці? Ёсць «дах»?**

**ПР:** Не, усё сама. З гэтым вельмі цяжка. Калі запрашаюць на камерцыйныя выступы, дзеля рэкламы, ты разумееш, што папрасіць грошай трэба, але першы раз папрасіць было вельмі страшна. Вельмі не люблю штосьці прасіць.

**«НН»: Ніколі не ўзнікала праблем з арганізацыяй канцэртаў?**

**ПР:** Нам аднойчы забаранілі канцэрт, і я адчула сябе апазіцыйным выканаўцам. Было гэта ўлетку ў Віцебску. А забаранілі таму, што паглядзелі ролік на «Белсаце». Творчасць у мяне зусім не апазіцыйная, але тут ужо глядзяць, і з кім ты сябруеш, і што ты робіш.

Вокны пакоя спявачкі выходзяць на «тыл» Дома ўрада, і кожны вечар Паліна мае магчымасць сузіраць падсвечаны сцяг Беларусі. Як кажа яна сама з жартам: «Гляджу і натхняюся. Я вось сачу за імі, але так і не разумею, што яны там робяць».

**Вольга Гарапучык**

# «Думаю, спецслужбы да смерці Вайніцкага не маюць дачынення»

У Вільні невядомыя **да смерці закатавалі** намесніка дырэктара беларускай гімназіі.

Рамана Вайніцкага, старшыню Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы і намесніка дырэктара па эканоміцы беларускай гімназіі імя Скарыны, 6 сакавіка знайшлі забітым у падвале шматпавярховіка, у якім ён жыў. Жонка раніцай не ўбачыла мужа дома. Ключы ад аўто ляжалі на месцы, а ключа ад падвала не было. Яна спусцілася ў падвал і жахнулася: Раман ляжаў звязаны, рот заклеены скотчам. А побач матляўся электрычны дрот. Яна лічыць, што мужа каталі токам.



SKORINA.LT

**Раман Вайніцкі**

нарадзіўся ў 1960 у Вішневе на Валожыншчыне. Узначальваў Клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына», быў намеснікам дырэктара па эканоміцы ў беларускай гімназіі імя Скарыны. З'яўляўся намеснікам старшыні Рады нацыянальных абшчын пры Міністэрстве культуры Літвы. У Рамана засталіся жонка і трое дарослых дзяцей: два сыны і дачка.

**Маладзёны ў цывільным**

На пахаванні з'явіліся невядомыя людзі ў цывільным. Яны зámінaлі апаратуру тэлеканала «Белсат» Здзіславасу Вайцахоўскісу здымаць. Спачатку яго выштурхнулі з цырымоніі развітання з Вайніцкім. Калі ж журналіст пачаў здымаць на вуліцы, яны закрывалі рукамі аб'ектыў. І пагражалі. Толькі пасля таго, як Вайцахоўскіс патэлефанаваў у паліцыю, людзі зніклі. Ён сцвярджае, што гэта не літоўцы, і бачыць падабенства «да тых, хто кідаў людзей у Мінску ў аўтазакі».



Падвал, дзе знайшлі Вайніцкага.

DELFI.LV

**Расійскі след**

Літоўскі парламентарый Арвідас Анушаўскас не выключае ў смерці Вайніцкага расійскі след. У інтэрв'ю тэлеканалу LNK ён выказаў думку, што беларус мог замінаць у аб'яднанні нацменшасцяў супраць літоўскай дзяржавы. «Расія імкнецца аб'яднаць усе нацыянальныя супольнасці ў Літве супраць «дрэнных літоўскіх законаў».А ён вельмі канкрэтна выступаў не раз супраць гэтых спробаў».

Віленская паліцыя пацвердзіла наяўнасць слядоў катавання. Больш інфармацыі там не даюць.

Магчыма, Раман ведаў забойцу. Магчыма, яго папрасілі вынесці ключы ад падвала. Маўляў, нейкі сусед свае згубіў. І там на яго напалі.

Што мог такога ведаць Вайніцкі, каб яго катавалі? Суседзі і знаёмыя ў адзін голас кажуць, што сям'я небагатая. Таму ці маглі вымагаць грошы? Бізнэс? Невядома. Гімназія – установа не багатая, хоць і мае падтрымку ад беларускага ўрада. Аб сваіх прыватных справах на працы Вайніцкі не расказваў. Але пра тэлефанаванні з пагрозамі, што пачасціліся апошнім часам, узгадваў.

Вайніцкі аб'ядноўваў тых беларусаў, хто выступаў за супрацу з афіцыйным Мінскам. Ён кантактаваў з беларускім пасольствам. Ад імя дыяспары выступаў у падтрымку Лукашэнкі ў 2006-м, асудзіў санкцыі Еўрасаюза пасля жорсткага разгону дэманстрантаў 19 снежня 2010. Маўляў, то былі ўнутраныя справы краіны.

Пры гэтым Вайніцкі браў удзел і ў мерапрыемствах апазіцыйна настроенага Таварыства беларускай культуры Літвы, станавіўся і пад бел-чырвона-белыя сцягі.

«Я стаpалася яго абыходзіць, — расказвае літоўская беларуска Алена. — У ягоным жаданні быць добрым і вашым і нашым была нейкая хітрасць. Ніхто не памятае, адкуль ён узяўся. У савецкім жыцці Вайніцкі працаваў на заводзе забеспячэнцам. У ягонай біяграфіі ёсць факт удзелу ў арганізацыі «Адзінства» [прасавецкая камуністычная арганізацыя ў 1991]. Казалі, што ён браў удзел нават у штурме Сойма ў 1991».

Суразмоўца лічыць, што супраца Вайніцкага з беларускім пасольствам мела меркантыльныя мэты. «Сутнасць у тым, што пасольства дазволіла ім афармляць візы. Такая маленькая камерцыя».

Але ці варта шукаць беларускі след у забойстве? «Думаю, спецслужбы абсалютна ні пры чым, — кажа Алена. — Гэта магла быць і выпадковасць: мог проста зайсці ў падвал па нейкі інструмент. А там у гэты час рабавалі».

**Сяргей Макарэвіч**

**Вышук**



**Александровіч Яўген Мікалаевіч** падазраецца ў кантрабандзе і незаконным звароце наркотыкаў. Ён хаваецца ад суда. Ураджэнец Мінска, пражываў у Гродне. Прыкметы: на выгляд 35—38 гадоў, рост 170—175 см, цёмныя валасы, носіць акуляры.
АУС Кастрычніцкага раёна Гродна просіць тэлефанаваць,: (0152) 79-78-48, 79-78-96, 79-78-05.



Касцюковіцкі РАУС расшуквае **Піцёнава Васіля Анатольевіча**. Ён падазраецца ў рабаванні. Прыкметы: на выгляд 30 гадоў, рост каля 175 см, авальны твар, валасы русыя.
Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефануйце на: (02245) 5-49-44, (044) 703-63-00.



Ваўкавыскі РАУС расшуквае **Шумелю Рамана Львовіча**. 12 снежня 2012 ён пакінуў Ваўкавыскі процітуберкулёзны дыспансер. Больш яго не бачылі. Прыкметы: на выгляд 65 гадоў, рост 155 см, хударлявы, вочы карыя. Быў апрануты ў куртку колеру хакі, шэрыя штаны, на нагах былі тапкі.
Хто ведае месцазнаходжанне Шумелі, просьба патэлефанаваць на: (01512) 7-51-06.

# «Вясна, жанчын віншуйце...»

Уладзімір Тачыла **адмаўляецца размаўляць** пра знос дома, які ён пачаў будаваць перад арыштам.

Стала вядома, што ў Полацку зруйнавалі дом, якія спрабаваў пабудаваць у ахоўнай зоне былы старшыня гарвыканкама Уладзімір Тачыла. Зрэшты, хата вырасці не паспела — узвялі толькі падмуркі, калі экс-мэра арыштавалі, а разам з ім яго былога намесніка Сяргея Куксу, былога старшыню Полацкага райвыканкама Валерыя Палідаўца з намеснікам Алегам Ермаковічам.

Абвінавачвалі былых чыноўнікаў у тым, што незаконна выдзялялі зямлю пад будаўніцтва дамоў у зоне ахоўванага ландшафту на тэрыторыі, прылеглай да Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра.

Тачылу затрымалі летась у маі. Падчас следства ён цалкам кампенсаваў суму нанесенай шкоды. І ўсе чацвёра напісалі прашэнне аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці на імя кіраўніка дзяржавы. Лукашэнка прашэнне прыняў і адпаведны загад падпісаў 27 снежня.

Уладзімір Тачыла не хоча размаўляць з журналістамі пра свой арышт. «Ужо ўсё напісана — чытайце. Калі-небудзь сустрэнемся і паразмаўляем. А пакуль пішыце пра штo-небудзь светлае — вясна, жанчын віншуйце...» — сказаў ён «Нашай Ніве».

**Кастусь Матушыч**



## Сцісла

### Школьніца нарадзіла дачку і задушыла яе

16-гадовая школьніца з Лепеля нарадзіла дома. Дзіця былоданошаным і здаровым. Мяркуецца, што адзінаццацікласніца ў стрэсавай сітуацыі не адказвала за свае ўчынкі, чым і тлумачыцца забойства. Дзяўчыну «хуткая» забрала ў рэанімацыю: падчас родаў яна страціла шмат крыві.

### Падпаліў жонку, каб напалохаць

Падчас сваркі сямейнікаў на Воранаўшчыне мужу пад руку трапілася каністра з бензінам. Ён плюхнуў на жонку з каністры і падпаліў. Думаў, што напалохае і яна ўціхамірыцца. А жонка атрымала апёкі твару, шыі і рук. Каб абараніць мужа перад міліцыяй, сказала, што распальвала ў печы бензінам ды абпалілася. Ён жа сам ва ўсім прызнаўся. Цяпер можа сесці ў турму.

### Начальніка цягніка так і не арыштавалі

Начальніка цягніка Мінск—Варшава і праваднікa затрымалі 29 жніўня пры правозе безбілетнікаў. У іх на руках выявілі амаль 500 даляраў і 30 еўра, якія тыя нібыта сабралі з пасажыраў. У дзесяці «зайцоў» узялі тлумачэнні і адпусцілі. Начальнік і праваднік знаходзяцца ў статусе падазраваных. Іх перавялі з працы ў цягніках на іншыя пасады. Расследаванне працягнута да мая.

### Згоншчыкі паквапіліся на «Жыгулі»

17-гадовыя прыяцелі вырашылі пакатацца па начным Быхаве. А для забавы выбралі не іншамарку, а «Жыгулі». Адзін з хлопцаў аказаўся бывалым злодзеем, таму без праблем адамкнуў аўто і завёў яго. Накатаўшыся, яны кінулі машыну ў мікраёне Колас. Прыяцеляў затрымалі, і цяпер ім пагражае пяць гадоў турмы.

**КМ**

# Ці можа чорная дзірка праглынуць Зямлю

Піша астраном
**Віктар Малышчыц.**

Самы страшны забойца, самая разбуральная сіла ў Сусвеце — гэтымі эпітэтамі, ад якіх стыне кроў у жылах, аўтары навукова-папулярнага фільма канала ВВС узнагародзілі найцікавейшы аб'ект у космасе — чорныя дзіркі. Мноства публікацый у прэсе, безліч фільмаў і перадач прысвечана ім, прычым у большасці выпадкаў з прэсы мы даведваемся аб надзвычайнай небяспецы, якая пагражае нашай планеце ад гэтых аб'ектаў. Ці варта іх баяцца?

### Калі паміраюць зоркі...

Паспрабуем сабе ўявіць, як утвараюцца такія аб'екты. Зоркі маюць велізарныя масы, з-за якіх гравітацыя даўно б сціснула іх, каб не адзін фактар. Зоркі свецяць за кошт таго, што ўнутры іх пры высокім ціску і тэмпературы самы распаўсюджаны ў Сусвеце элемент — вадарод — ператвараецца ў гелій. Такія ж рэакцыі, дарэчы, адбываюцца пры выбуху вадароднай бомбы. Магутнае выпраменьванне, якое пры гэтым нараджаецца ўнутры кожнай зоркі, аказвае моцны ціск, які супрацьдзейнічае сілам прыцягнення, не даючы ёй ператварыцца ў звышшчыльны аб'ект. Але з цягам часу ўсе запасы паліва сканчаюцца і сілы прыцягнення бяруць сваё, нараджаючы экзатычныя для нас аб'екты.

Калі памірае зорка кшталту нашага Сонца, то сілы гравітацыі сціскаюць яе да памераў зямнога шара. Велізарны ціск разбурае нават атамы, пераводзячы рэчыва ў незвычайны стан, які немагчыма атрымаць у нашых лабараторыях. Такую зорку называюць белым карлікам. Шчыльнасць рэчыва ў ёй настолькі вялікая, што напоўнены ім напарстак можа важыць тысячу тон!

Калі зорка перад смерцю была цяжэйшай (у 1,5—2 разы цяжэйшай за Сонца), то сілы гравітацыі, якія яе сціскаюць, будуць яшчэ большымі, і змогуць разбураць нават атамныя ядры. У выніку застанецца аб'ект памерам з Мінск, шчыльнасць якога проста не зможа ўкласціся ў галаве: той самы напарстак рэчыва можа важыць нават мільярд тон! Такія зоркі называюцца нейтроннымі.

### Монстр гравітацыі

Але калі маса зоркі будзе перавышаць сонечную больш чым утрая, ніводная сіла ў Сусвеце не зможа процістаяць гравітацыі. Зорка сціснецца фактычна ў кропку з бясконца высокім ціскам і тэмпературай, такім жа моцным стане і гравітацыйнае поле каля яе. Адбудзецца, вобразна кажучы, «дзяленне на нуль» у пэўнай кропцы прасторы.

Але ўбачыць, што робіцца каля такога дзівоснага аб'екта, мы не зможам. З-за ўжо згаданага гравітацыйнага поля пачне скрыўляцца прастора вакол; яна быццам бы самазамкнецца, і ніводзін сігнал знутры не зможа дайсці да нас. Гэтыя скрыўленні прасторы немагчыма ўявіць нашай трохмернай свядомасцю, але можна апісаць фізічнымі ўраўненнямі. І калі ніводзін сігнал не пакіне гэты ізаляваны ад нас куточак Сусвету, то такі аб'ект нават не зможа выпраменьваць святло. Гэта і будзе чорная дзірка.



На шчасце, Вялікі адронны калайдар такое стварыць не здольны.



Чорная дзірка ў падвойнай сістэме паядае свайго кампаньёна.



Чорная дзірка па-сапраўднаму небяспечная толькі пры прамым пападанні ў Зямлю.

Паколькі чорная дзірка не свеціцца, знайсці яе — задача для сучасных астраномаў нерэальная. Але ўсё робіцца нашмат прасцей, калі чорная дзірка ўваходзіць у склад падвойнай зоркі. У такім выпадку яна можа пачаць перацягваць на сябе рэчыва сваёй суседкі і з задавальненнем яго паглынаць. Пры гэтым газ, падаючы на чорнага «канібала», будзе разганяцца да амаль светлавой хуткасці і ярка свяціцца ў рэнтгенаўскіх промнях. Таму, калі астраномы бачаць падвойную зорку, адзін з кампанентаў якой цёмны і выпраменьвае рэнтген, няма сумневаў — гэта чорная дзірка.

### Пагроза для Зямлі?

Што ж, раптоўную сустрэчу з адзінокай чорнай дзіркай мы прадказаць не ў стане. Наколькі імаверная і небяспечная такая сустрэча?

Журналісты часта апісваюць гэтыя аб'екты як гіганцкія касмічныя пыласосы, якія ўсмоктваюць усё, што знаходзіцца на іх шляху. Але гэта няпраўда: адзіны механізм, праз які чорныя дзіркі могуць уплываць на іншыя целы — гэта гравітацыя, якая залежыць толькі ад масы. І калі б, напрыклад, Сонца раптоўна ператварылася ў чорную дзірку, яно не засмактала б ніводнай планеты: усе працягвалі б рухацца па тых жа арбітах, толькі вось днём было б цёмна і холадна...

Калі ж «касмічны забойца» не засмокча нас, усё роўна Зямлю можа проста выкінуць з яе арбіты пры блізкім праходжанні чорнай дзіркі. Можа, гэты сцэнар уяўляе небяспеку?

На шчасце, верагоднасць і гэтай падзеі амаль нулявая. Наш космас — адна бясконцая пустата. У фантастычных фільмах мы бачым, як адважныя касмічныя падарожнікі лётаюць скрозь туманнасці і зорныя скопішчы, але ўсе гэтыя кадры робіцца для відовішчнасці: ніякі фільм не зможа перадаць маштабы каласальных адлегласцяў у Сусвеце. Каб хоць крышку асэнсаваць маштаб, уявім, што Сонца сціснулася да памераў вялікай гарошыны (1 сантыметр). У такім маштабе да бліжэйшай зоркі будзе прыкладна... 300 кіламетраў! Уявіце сабе дзве гарошыны: адна ў Мінску, другая ў Гродне — гэта і ёсць шчыльнасць зорак у нашай галактыцы. Ведаючы гэта, на пытанне, ці часта зоркі могуць сутыкацца адна з адной, адкажыце самі.



Там, куды ўказвае лазер з тэлескопа, і знаходзіцца цэнтр нашай Галактыкі, а разам з ім і звышмасіўная чорная дзірка.

### Чорныя дзіркі — крыніца жыцця

Аказваецца, чорныя дзіркі могуць не толькі несці смерць, але і жыццё! У цэнтры амаль любога зорнага вострава — галактыкі — таксама знаходзяцца такія аб'екты. Прычым іх маса можа ў мільёны разоў перавышаць сонечную. Утварыліся яны яшчэ мільярды гадоў таму, калі ў цэнтрах галактык было вельмі шмат рэчыва. Рэшткі гэтай матэрыі тады падалі на звышмасіўныя чорныя дзіркі, нараджаючы нябачанай сілы выпраменьванне, якое сваім ціскам адштурхоўвала ад сябе астатні газ, ствараючы такім чынам умовы для фарміравання новых зорак па ўсёй галактыцы. Магчыма, і наша Сонца існуе толькі дзякуючы таму, што некалі даўно ў цэнтры нашага Млечнага Шляху актыўнічала чорная дзірка. Дарэчы, яна і цяпер там існуе, толькі паглынаць ёй ужо няма чаго. Астраномы знайшлі гэты аб'ект толькі дзякуючы навакольным зоркам, якія з вялізнымі хуткасцямі кружацца вакол чагосьці цёмнага.

### Адронны калайдар і канец свету

Сучасная фізіка не аспрэчвае і існаванне чорных дзірак малой масы — нават меншай за кілаграм. Праверыць, ці існуюць яны, амаль немагчыма. Таму гэтыя гіпатэтычныя аб'екты становяцца героямі навуковых міфаў. Напрыклад, пра тое, што ў Швейцарыі, у Вялікім адронным калайдары, могуць нарадзіцца такія мікраскапічныя дзіркі, якія засмокчуць спачатку калайдар, пасля — Зямлю, а потым — увесь Сусвет. На шчасце, баяцца іх не варта: з космасу да нас часам прылятаюць часцінкі, энергія якіх у мільёны разоў большая, чым у тым калайдары, — і нічога катастрафічнага не адбываецца. Часам нават падаецца, што такія міфы прыдумляюць самі вучоныя, бо такім чынам можна прыцягнуць увагу грамадскасці да шматмільярднага праекта.

Як бачым, колькі б ні палохала нас жоўтая прэса, чорныя дзіркі — зусім не пагроза нашаму існаванню і нашай планеце. Але гэта ўнікальная з'ява ў Сусвеце, якая дазволіла нам яшчэ глыбей падысці да яго таямніцаў і зрабіць чарговы крок наперад у адкрыцці законаў Прыроды.

# «У Польшчы парадак, а ў Беларусі бардак»

**Не беднасць, не бескультур'е, а менавіта бардак! Так гэта бачыцца, калі пабываеш у суседзяў.**

Ад 6 да 8 сакавіка давялося пабываць у Польшчы. Тым людзям, якія выязджаюць часта, вочы замыльваюцца. А я ў Польшчы не быў ад 2010, таму нейкія кантрасты адразу кідаліся ў вочы.

Ехаў з Брэста да Цярэспаля, стуль на аўтобусе да Белай Падляскай, а стуль бусікам да Варшавы. Гэтаксама і назад. У бусіку сюрпрыз: у гонар 8 Сакавіка ўсім жанчынам зніжка з 27 да 20 злотых і дораць па шакаладцы. Дзе вы ў нас такое бачылі?

Вакол дарогі чыста, у лесе і каля стаянак смецце не валяецца. Вакол матэляў, гатэляў, кавярняў прыдарожных — акуратнасць. Шмат дыхтоўных, сучасных катэджаў у вёсках і гарадках. Прычым не аднолькавых праектаў. Значыць, не дзяржаўныя, а людзі самі сабе будавалі.

Каля хатаў не відаць агародчыкаў з градамі, нават у вёсках. Калі і ёсць, то далей ад дома, каля поля. Не так, як у нас, калі, бывае, пад самыя вокны ўсё градамі засаджана. Значыць, людзі не жывуць у нястачы, не галодныя.

На вуліцах чыста, шмат дробных шыльдаў — значыць, шмат прыватнага бізнэсу. Крамы, сэрвісы, склады, гатэльчыкі, корчмы. Выглядае, што ўсё прыватнае.

У Варшаве і ў малых гарадках на кожным прыпынку вывешаны расклады транспарту і маршруты.

Паглядзеў і разабраўся, што куды ідзе. Ходзіць усё строга па раскладзе. Лёгка выбраць, на што сядаць. Гэта ідзе ад культуры, скажаце вы? Ды не, гэта ідзе ад парадку! Бо людзі адказваюць за сваю сферу, а не так, як у нас.

Ну, а сучасныя будынкі ў Варшаве ўвогуле не ідуць ні ў якое параўнанне з мінскімі!

Вось там навабуды дык навабуды! Узяць хоць бы будынкі новых офісных цэнтраў і якасных жылых дамоў. Архітэктура! Прыгожа глядзіцца іх новы Нацыянальны стадыён, на якім праходзіла Еўра-2012.

## Ні ў якое параўнанне не ідуць нашы калгасныя дамкі ў аграгарадках і польскія сялянскія катэджы

У кіроўцаў грае не шансон, не якаясьці зубадрабільная музыка, а агульнанацыянальны канал.

Я ўжо забыў, калі ў нас у Беларусі ездзіў у транспарце, дзе б не грала агрэсіўная музыка. Чаму? Ды зноў жа таму, што бардак, што аўтапаркі і перавозчыкі не асмельваюцца нарматыўна забараніць шансон і абавязаць ставіць культурны канал.

Ну і ўсё па-польску, вядома, а не на мове суседняй дзяржавы, як у нас. А ў нас — ніводзін памежнік ані мытніца ў Брэсце былі няздольныя мне два словы па-беларуску адказаць, ні туды ні назад. Ёлкі-палкі, вы ж дзяржаўныя службоўцы, а не баба Клава з лавачкі!

Што гэта за дзяржава, што не хоча ці не можа дабіцца, каб яе чыноўнікі элементарна валодалі дзяржаўнымі мовамі, я ўжо не кажу пра замежныя.

Традыцыйнае пытанне пра цэны. Прадукты каштуюць як у нас, нерухомасць разу ў паўтара даражэйшая, аўтамабілі таннейшыя, чым у нас, праезд у транспарце даражэйшы, бензін даражэйшы, камуналка даражэйшая. Заробкі і пенсіі ў палякаў разы ў два-тры большыя, чым у Беларусі.

Таму жывуць палякі разу ў паўтара лепш, груба так параўноўваючы. Але пытанне нават не ў грашовым вымярэнні. У нас багацце рассыпаецца, як пясок праз пальцы, бо скрозь абыякавасць і халтура, бо ўсюды «не сваё — не жалка», бо няма гаспадара.

Ні ў якое параўнанне не ідуць нашы калгасныя дамкі ў аграгарадках і польскія сялянскія катэджы, які кожны мураваў за свае кроўныя.

У нас у Беларусі няма парадку. Пасля Польшчы гэта разумееш. У нас толькі за палітыку душаць, а за беспарадак, раздзяўбайства, халтуру ніхто не карае.

Вось і захоўваецца савецкі бардак, хоць мы ўжо 22 гады як скінулі Савецкі Саюз. Дай бог, каб і ў нас урэшце да ўлады прыйшоў не Крыкун, а самавіты Гаспадар, каб адрадзіў еўрапейскія звычкі і ў нас.

**Міхаіл Воўчак, Мінск**

# Чавэс Беларусі крыўды не зрабіў

Неяк беларускія лібералы непрыязна ставяцца да сканалага Уга Чавэса. Ён чалавек свайго народа, сваёй культуры і свайго тэмпераменту. Беларусі ён крыўды не зрабіў. Ну, што да яго прымазаўся Лукашэнка, дык да каго ён толькі не ліп? Унь, катарскі эмір, стоўп дэмакратыі...

Беднасць у Венесуэле за часы Чавэса ўпала з 51 да 29%. Што ім незадаволеныя багатыя, то праўда. У іх эканамічная ўлада, добрая прапаганда, уплывовыя прыхільнікі-багацеі за межамі.

Не, пра спадчыну Чавэса і пра яго меркаваць рана. Пацярпім трохі.

Пэўне няварта сумнявацца, што ён не дыктатар, не тыран і не садыст. Ён чэсны лацінаамерыканскі правіцель і з далёка не горшых.

**Мікалай Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

# Вярніце Ваньковічаў Лес

Гэтымі днямі беларуская энцыклапедыя выдала ёмісты том пра радавод Альхімовічаў. Альхімовічы... Гэты радавод мяне здаўна цікавіў, і цікавіць усё, што звязана з гэтым імем. І ўсё, што звязана з шанаваннем і ўганараваннем, мяне цешыць. Але з адным ніяк не магу пагадзіцца. Як вядома, у нашым Мінску ёсць так званы парк Чалюскінцаў. Але гэты мінскі кут спрадвечна называўся Ваньковічавым Лесам. Чуеце — Ваньковічавым Лесам! І пры чым тут чалюскінцы? Хай бы гэты кут гэтак і называўся сваім спрадвечным назовам — Ваньковічавым Лесам. Згадаю, у Парыжы ёсць Булонскі лес. І гэтая назва вядомая ўсяму свету. То хай бы і Ваньковічаў Лес меў свой спрадвечны назоў.

**Уладзімір Содаль, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Кроў Папялушкі**

Піша **Павел Севярынец**.

*Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром.*
*Да Рымлянаў 12-21*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Калі Касцёл абвяшчаў яго блаславёным, на пляцы Пілсудскага ў Варшаве сабраліся сотні тысячаў вернікаў са 140 краінаў. Ежы Папялушка — капелан «Салідарнасці», святар, які спавядаў і прычашчаў бунтоўных рабочых, зрабіўся Сэрцам мірнага польскага супраціву.

*«Свабода — яна ўнутры нас!»* — так і чуеш, як малады ксёндз прамаўляе казань перад рабочымі, якія бастуюць у Варшаўскай гуце, сялянамі на роднай Беласточчыне, інтэлігенцыяй у сталічным касцёле Святога Станіслава Косткі.

Ягоная *свабода* ёсць у кожным з нас, беларусаў. Папялушка нарадзіўся ў сям'і простых беларускіх сялянаў — у вёсцы Акопы гміны Суховаля Падляскага ваяводства ў 1947. Маленькім нават не размаўляў па-польску: вясковая Беласточчына — край глыбокіх ліцвінскіх каранёў. Пасляваеннае Падляшша, аддадзенае Сталіным Польскай Народнай Рэспубліцы, спывала крывёю: Саветы расстрэльвалі класавых ворагаў ды нацыяналістаў, лясныя АКаўцы рэзалі горлы бальшавікам ды беларусам... а ціхі вернік, хударлявы хлопчык пайшоў міністрантам у касцёл. «Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром» — дэвіз з Паслання апостала Паўла да Рымлянаў ксёндз Ежы будзе паўтараць і паўтараць на казанях да «Салідарнасці». Пасля заканчэння духоўнай семінарыі ў Варшаве 24-гадовага Папялушку высвяціў на святара вялікі кардынал Стэфан Вышынскі.

У 1980 Польшча паўстала. У тым жа 1980 Ежы споўнілася 33 — узрост Хрыста. І менавіта Папялушка ўзяў на сябе служэнне, на якое адважыліся нямногія і якое стала ягоным крыжам — стаў душпастарам апазіцыі, рабочых, што забаставалі па ўсёй краіне. З увядзеннем вайсковага становішча і арыштам тысячаў актывістаў «Салідарнасці» палякі хлынулі ў Касцёл. У парафіі Станіслава Косткі ў цэнтры Варшавы людзі не змяшчаліся ў храме. Рашучыя рабочыя сталі знадворку і абураліся: народ ідзе да Касцёла па абарону, а што Касцёл?.. І тады Папялушка распачаў «Імшы за Айчыну». Ягоныя казані трансляваліся праз радыё «Свабодная Еўропа». Капелан «Салідарнасці» ездзіў па ўсёй краіне. У 1983 улады сфабрыкавалі супраць яго крымінальную справу, але кіраўніцтва Касцёла выцягнула яго з турмы.

13 кастрычніка 1984 года ля Гданьска польскае гэбэ, палюючы на Папялушку, зладзіла аўтааварыю. Малады ксёндз ацалеў. 16 кастрычніка кардынал-прымас Юзаф Глемп выклікаў Папялушку. Усе разумелі, да чаго ідзе. Глемп прапанаваў выехаць на вучобу ў Рым. Ежы адмовіўся.

Праз тры дні, 19 кастрычніка, на дарозе Торунь—Варшава тры афіцэры спецыяльнага аддзела Службы Бяспекі, адзін з якіх быў апрануты даішнікам, спынілі машыну з Папялушкам. Ксяндза выцягнулі і збілі. Завезлі на бераг вадасховішча. Зацягнуўшы на шыі пятлю ды прывязаўшы груз, утапілі каля плаціны Уладлаўка.

Усё было зроблена так, каб труп не ўсплыў.

Але Вісла выштурхнула цела — і разам са страшнай праўдай з глыбіняў выплыў боль Касцёла і гнеў цэлай Польшчы. Пахаванне Папялушкі 3 лістапада 1984 сабрала 250 тысячаў чалавек.

У 2010 на плошчы Пілсудскага ў Варшаве падчас беатыфікацыі ксяндза Папялушкі ягоная матуля, 100-гадовая Марыяна, сказала цэламу свету:

— Калі сына хавалі, я развіталася з ім са слязьмі на вачах... Але буду вітаць яго з радасцю. Там, дзе няма ані страху, ані болю, ані смерці.

Папялушка — гарачае беларускае сэрца, аддадзенае Польшчы.

Так і чуецца знаёмы павеў...

З Беларусі ў Польшчу ўвесь час веяла ціхім евангельскім ветрам — ад часоў пабожнага Ягайлы, праз «Берасцейскую Біблію» Мікалая Радзівіла Чорнага і «Новы Запавет» Буднага. Што і казаць, калі духоўным настаўнікам Караля Вайтылы, будучага папы Яна Паўла II, быў кардынал Павал Сапега! Менавіта беларуская кроў была той крыніцай і незагойнай ранай, што выявіла ў Польшчы Езуса Укрыжаванага.

Беларусь — радзіма патрыярха польскай літаратуры і песняра польскага пілігрымства Адама Міцкевіча, родны дом найбольш пладнага хрысціянскага пісьменніка ў свеце, які напісаў 600 тамоў твораў, Юзафа Крашэўскага, айчына нахнёных пісьменнікаў эпохі Асветніцтва — Францішка Багамольца, Адама Нарушэвіча, Францішка Князніна, Юльяна Нямцэвіча, геніяльнага аўтара кнігі Quo Vadis, ухваленай Ватыканам, Генрыка Сянкевіча.

Бацька польскай оперы — беларус Станіслаў Манюшка. Пачынальнік польскага сімфанізму — наш Мечыслаў Карловіч. Аўтар найвядомейшага ў свеце паланэза — пранізлівы паўстанец Міхал Клеафас Агінскі.

Нават бацька сучаснай польскай дзяржавы — віленскі беларус Юзаф Пілсудскі.

Папялушка — адзін з такіх.

А на каго ж Бог пакінуў саму Беларусь?

Беларускі Касцёл зрабіў надзвычай шмат, каб мы прайшлі той жа шлях да волі, які прайшла Польшча. Беларускі Касцёл — гэта царква заснавальнікаў БХД Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага, кардынала-пакутніка Казіміра Свёнтка і перакладчыка Бібліі Уладыслава Чарняўскага, правадыра Адраджэння Зянона Пазняка і пробашча Чырвонага Касцёла Уладыслава Завальнюка, братоў Баркоў і дружнай грэка-каталіцкай грамады... Царква чыстае веры, прынцыповае беларускасці... і традыцыйнае асцярожнасці.

Але калі бачыш маладых хударлявых ксяндзоў з яснымі вачыма, што выбіралі семінарыю ў 1990-я, а цяпер вядуць пілігрымкі і адкрыта носяць белую з чырвоным стужку Хрыста — адразу згадваеш: гэта царква блаславёнага Ежы Папялушкі.

Гэты ксёндз рабіў нешта вельмі-вельмі простае. Угалас называў белае — белым, чорнае — чорным, волю — воляй, а праўду — праўдай. Перамагаў зло дабром. І гэтак жа проста аддаў сваю беларускую кроў агромністаму народу, каб увесь народ, знявераны і запалоханы, мог нарэшце прыняць і ўмясціць Неўмяшчальнага Збаўцу.

*Куплін*

**Папялушка рабіў вельмі-вельмі простае: называў белае — белым, чорнае — чорным »**

# Не пераваліся дзяржаўныя чыноўнікі, якім не дае спакою ўсё беларускае

Адкрыты ліст намесніку старшыні Мінгарвыканкама Ігару Карпенку. Піша доктар філалагічных навук, прафесар **Валянціна Лемцюгова**.




**Лацінка — важны духоўны фрагмент і прадмет гонару нацыі**

Паколькі я з’яўляюся ініцыятарам стандартызацыі беларускай тапаніміі па міжнародных стандартах, кіраўніком тэмы «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь», навуковым рэдактарам і адным з суаўтараў нарматыўнага тапанімічнага даведніка з той жа назвай, лічу сваім абавязкам сказаць сваё слова ў адказ на намеры Ігара Карпенкі, пазбаўленыя ўсялякай логікі і сэнсу.

Чыноўніку не падабаецца загалоўная роля беларускай арыгінальнай формы тапонімаў, і яму не церпіцца замяніць яе на рускамоўную, а значыць, арыгінал на копію. У сувязі з гэтым варта нагадаць, што тапанімія — гэта калектыўны твор карэннага этнасу краіны. Разам з помнікамі старадаўняга дойлідства, руінамі гарадзішчаў і замчышчаў мы ўспадкавалі ад мінулых пакаленняў і ўласныя геаграфічныя назвы — своеасаблівы летапіс нашай зямлі.

Яшчэ дзвесце гадоў таму выдатны вучоны І. П. Філевіч трапна назваў тапанімію «мовай зямлі». «Мова зямлі, — пісаў ён, — значыць для нас больш, чым творы старажытных і сярэднявечных аўтараў, больш, чым сведчыць пра сваю гісторыю сам народ... Яна не паддаецца фальсіфікацыі. Тут нічога не прыдумаеш, нічога не сачыніш. Мінулыя эпохі, зніклыя народы і культуры даверылі «мове зямлі» берагчы памяць пра сябе. І яна свята і сумленна зберагла і пранесла яе праз вялікія перасяленні, праз стагоддзі эвалюцый і трансфармацый, праз зрушэнні і перавароты».

Такая гістарычна-культурная спадчына недатыкальная, і ніхто не ў праве маніпуляваць народным скарбам.

Таму ў цывілізаваных краінах нацыянальнай тапаніміі ўжо даўно прысвоены статус гістарычна-культурных помнікаў. Пара было б ужо і нам пераняць гэты каштоўны вопыт і надаць нашай тапаніміі аналагічны статус. Дык ці наступіць калі-небудзь такі час, калі кожны дзяржаўны чыноўнік будзе паважаць духоўную спадчыну сваіх продкаў, абараняць і цаніць нацыянальныя каштоўнасці, а не ўпадабняцца той хатняй птушцы, што грабе ад сябе?



**Валянціна Лемцюгова**

Нарадзілася ў 1935 у вёсцы Новая Алакюль Ленінградскай вобласці (Расія). Мовазнавец, доктар філалагічных навук, прафесар. Ад 1961 працуе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук. Даследуе сучасную анамастыку (раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны і геаграфічныя назвы).

Карпенку раздражняе таксама і традыцыйная нацыянальная лацінка, якую ён прапануе замяніць на «англамоўны пераклад» (?) ці нешта падобнае. Перш чым заводзіць размову пра непрыдатнасць беларускай лацінкі, трэба было б раней займець хаця б элементарнае ўяўленне пра яе сутнасць і гістарычныя карані, а таксама навучыцца адрозніваць лацінку і лацінскую мову, транслітарацыю і пераклад.

На лацінцы пісалі, яе ўдасканальвалі і адшліфоўвалі нашыя творчыя аўтарытэты — Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Рыпінскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Якуб Колас, Янка Купала, Змітрок Бядуля і іншыя беларускія пісьменнікі, друкаваліся першыя беларускія газеты Naša Niva, Homan, Biełarus. Таму лацінка — важны духоўны фрагмент і прадмет гонару нацыі.

Да ведама тав. Карпенкі, стандартызацыя беларускай тапаніміі праведзена не па прынцыпе «цапу-лапу», а згодна з нацыянальнымі і міжнароднымі законамі і правіламі, адпаведна з прынцыпамі, выпрацаванымі Групай экспертаў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый па стандартызацыі нацыяльнай тапаніміі.

Не трэба забывацца, што Беларусь — даўні член ААН і адзін з яе стваральнікаў і адпаведна абавязана прытрымлівацца міжнародных нормаў, у тым ліку пры афармленні ўласных назваў.

За вынікамі стандартызацыі стаіць больш за 20 гадоў няспынных намаганняў і пошукаў, 50 гадоў уласнага вопыту даследчай працы па самых розных пытаннях тапаніміі. Тапанімія ніводнай краіны не аказалася ў такім занядбаным стане, як беларуская.

З першых жа крокаў давялося сутыкнуцца з такой з’явай, як адсутнасць беларускага арыгіналу тапонімаў. Усе наяўныя афіцыйныя спіскі былі цалкам у рускамоўным афармленні, без указання націску, а значыць, без усякіх вымаўленчых асаблівасцяў. Напрыклад, паспрабуй здагадацца, што Ольница, Ожики — гэта беларускія тапонімы Вольніца, Вожыкі ў рускамоўнай перадачы. Хтосьці прыняў пачатковы гук за прыстаўны і вырашыў яго «адставіць». На шчасце, тым жа шляхам не пайшлі гродзенцы і не «адставілі» гук «в» у тапоніме Волахі. Такім жа чынам вялася рэгістрацыя беларускіх тапонімаў у Нацыянальным кадастры, толькі з яшчэ большай колькасцю памылак і скажэнняў рознага роду. Нават там, дзе ўжывалася беларуская форма, усталяваўся страшэнны разнабой. Адна і тая ж назва пісалася па-рознаму: Старадумка і Старадубка, Гарусты і Гарысты, Гарбанаўка і Урбанаўка, Качан і Качанова.

**Нацыянальная мова ў нас адна — беларуская, і вяршынства належыць ёй »**

Трэба было арганізаваць работу так, каб любымі сродкамі ўзнавіць увесь нацыянальны фонд тапаніміі, сфарміраваць годны імідж краіны і не адкінуць яе на абочыну цывілізацыі. Не ўсё было сцёрта з памяці простых людзей. На дапамогу прыйшлі краязнаўчыя музеі, абласныя і раённыя выканаўчыя камітэты, асобныя энтузіясты. Былі актыўна задзейнічаны ВНУ і школы.

Сабраныя звесткі супастаўляліся, звяраліся, неаднаразова ўзгадняліся. Такім чынам па крупіцы пры шырокай падтрымцы мясцовых уладаў і грамадскасці былі адроджаны самабытныя формы беларускай тапаніміі.

Сумесна з Камітэтам па маёмасці ствралася нарматыўна-прававая база стандартызацыі: інструкцыі, кодэксы, праспекты. Але праца, на жаль, ішла марудна, паколькі і на той стадыі хапала апанентаў. Напрыклад, зацята змагалася супраць адраджэння беларускай тапаніміі сямейная пара Лопухаў (Р. М. Лопух — супрацоўніца Картфонда і П. С. Лопух — выкладчык геаграфічнага факультэта БДУ).

Пратаколы пасяджэнняў Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь сведчаць, з якой напорыстасцю Р. М. Лопух дамагалася замены беларускамоўнай формы тапонімаў на рускамоўную.

Прыняцце ў якасці асноўнай (загалоўнай) рускамоўнай формы тапонімаў звычайна матывавалася тым, што «ў нас дзве дзяржаўныя мовы». Так, дзве. Але іх магло быць і больш у залежнасці ад грамадскай сітуацыі.

Дзяржаўная мова — гэта катэгорыя палітычная. А нацыянальная мова ў нас адна — беларуская, і вяршынства належыць ёй.

Пасля «рэцэнзавання» Р. М. Лопух макета першага тома шасцітомнага нарматыўнага даведніка «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» ад яго ранейшых структуры і зместу засталіся толькі шматкі: яна зноў вярнула пераклады тапонімаў (Красный Пахарь — Чырвоны Араты, Луч — Прамень), выкрасліла рубрыку «Варыянты назваў населеных пунктаў», «Страчаныя назвы» і ўсё іншае, што прыйшлося ёй недаспадобы.

Пераклад тапонімаў — гэта ўласна нашае «вынаходніцтва». У іншых славянскіх краінах да такога не дадумаліся.

Вядомыя рускія анамасты (А. В. Суперанская, З. В. Рубцова) асуджальна ставіліся да двухназоўя ў тапаніміі.

У Кіеве, напрыклад, нават за савецкім часам плошча мела адну назву і па-ўкраінску, і па-руску — Жовтневой (а не Октябрьской) революции.

Перакладаць назвы населеных пунктаў — тое самае, што рабіць пераклад прозвішчаў (Трусаў — Кроликов, Бурак — Свекла, Кавалёў — Кузнецов). А колькі часу было змарнавана, каб даказаць такія элементарныя рэчы!

З асабліва ўпартай непрымальнасцю была сустрэта беларуская традыцыйная лацінка. Р. М. Лопух і яе аднадумцы чапляліся за кожную дробязь (перадача асобных літар, надрадковыя значкі, гачакі). Р. М. Лопух то заяўляла, што беларуская лацінка не існавала ўвогуле, то што яна запазычаная ў палякаў. Многія відавочныя рэчы даводзілася даказваць з фактамі ў руках.

Галоўным аргументам наконт таго, ужываць ці не ўжываць нацыянальную лацінку, з’явіліся патрабаванні Групы экспертаў ААН па стандартызацыі нацыянальнай тапаніміі, згодна з якімі кожная нелацінапішучая краіна павінна распрацаваць сваю нацыянальную лацінку, якая не была б прывязана да якой-небудзь адной замежнай мовы з лацінскай графікай.

Па сваёй сутнасці нацыянальная сістэма лацінізацыі мусіць быць зарыентаваная на дакладную перадачу зыходнага нацыянальнага графічнага аблічча ўласнага імя, а не яго гучання. Выходзіць, што беларуская лацінка цалкам адпавядае міжнародным патрабаванням і стандартам.

Довад, што нашу традыцыйную лацінку трэба замяніць на нейкі англа-беларускі гібрыд, паколькі яе не могуць расчытаць асобныя турысты, наіўны і смешны.

Сапраўдны турыст і госць у любой краіне шукае нешта адметнае, непаўторнае, самабытнае, іншымі словамі — не трафарэтнае, а эксклюзіўнае. Наколькі вядома, ніхто яшчэ не заблукаў у Польшчы, Чэхіі, Кітаі таму, што там карыстаюцца сваёй графікай.

Іншая справа, што ў нас саміх, на жаль, не перавяліся дзяржаўныя чыноўнікі, якім не дае спакою ўсё беларускае.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, у сферы беларускай тапаніміі нарэшце быў наведзены ідэальны парадак, як у фактычнай, так і нарматыўнай частцы, што прызнана і ўнутры краіны, і на міжнародным узроўні. Да вялікага нашага сораму сёння тут зноў замаячыў прывід хаосу.

## ГАНДБОЛ

### 1/8 фіналу Лігі чэмпіёнаў

**14 сакавіка ў Палацы спорту на Нямізе** адбудзецца першая гульня 1/8 фіналу Лігі чэмпіёнаў паміж мінскім «Дынама» і «Металургам» (Скоп’е). Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Шырокая Масленіца

**17 сакавіка з 11-й у Сілічах** — «Шырокая Масленіца». У гэты дзень усе госці будуць святкаваць Масленіцу і сустракаць вясну ў трох стылях: народным, сярэднявечным і сучасным…

### Масленіца ў Дудутках!

**16 сакавіка а 12-й у музейным комплексе «Дудуткі» (Мінская вобл., Пухавіцкі раён, вёска Пціч)** — святкаванне Масленіцы. Цягам свята — цудоўныя песенькі, танцулькі ды гульні ад гуртоў Vuraj (Вурай), «Сябрынкі» і інш. Спальванне пудзіла «Зімы» ды карагоды вакол вогнішча напрыканцы свята.

### Маладыя гады, маладыя жаданні

**15 сакавіка а 17-й у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (Багдановіча, 7а)** — імпрэза «Маладыя гады, маладыя жаданні». Мерапрыемства прысвечанае часопісу «Маладосць».

### Паляванне і рыбалка

**Выстава-кірмаш «Паляванне і рыбалка. Актыўны адпачынак. Вясна-2013» пройдзе 14—17 сакавіка** ў комплексе «Белэкспа» (Купалы, 27).

## КАНЦЭРТЫ

### Pomidor/Off

**14 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — Аляксандр Памідораў і кампанія, уладальнікі «рок-каронаў 2011 года», граюць цяжкія электрычныя хіты ды акустычныя балады.

### Дзень Святога Патрыка

**17 сакавіка а 19-й у Loft (Броўкі, 22)** — «Дзень святога Патрыка». Для гасцей граюць гурты Ejrut (Мінск) і Jolly Green (Мінск).

### Палац

**21 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт фолк-гурту «Палац».

### Тройца

**21 сакавіка а 19-й у к/з «Мінск» (Малая сцэна)** — канцэрт этнатрыа «Тройца».

### Apple Tea

**20 сакавіка а 20-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — джаз-бэнд Apple Tea.

### Варвары Блюза

**20 сакавіка а 20-й у «Гудвіне» (пр.Незалежнасці, 19)** — эксклюзіўная прэзентацыя альбома Мікалая Аруцюнава & Co у сумесным праекце «Варвары Блюза».

### Гаротніца

**15 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — «Гаротніца».

### Беларуская Брама

**17 сакавіка а 19-й у канцэртнай зале «Верхні горад»** — беларускі фолк у выкананні трыа «Бела Брама». Гурт прадставіць свой новы альбом «Скарб».

## ВЫСТАВЫ

### Жывыя мятлікі ў Гродне

**Да 31 сакавіка ў Гродзенскай выставачнай зале (Ажэшкі, 38)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Пра некаторых матылькоў існуюць паданні, жыццё іншых само падобнае да казкі…

### Тапаграфіка

**Да 23 сакавіка ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава-праект «Тапаграфіка». Хатнія тапачкі мы носім не напаказ, а для сябе, а значыць, можам быць па-сапраўднаму шчырымі ў выбары. Дызайнеры ўсяго свету надаюць шмат увагі аксесуарам — дык чаму б не звярнуць увагу і на гэты прадмет гардэроба?

### Маляўнічае гістарычнае Палессе

**Да 17 сакавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Маляўнічае гістарычнае Палессе». Акрамя дзясяткаў разнастайных пейзажаў, напісаных з натуры пад моцным уражаннем ад мясцінаў гэтага краю, выставу складаюць прадметы, якія распавядаюць пра гісторыю, побыт, звычаі і заняткі жыхароў гэтага краю.






### Адам Ламберт

**15 сакавіка ў мінскім Палацы спорту (пр.Пераможцаў, 4)** выступіць спявак Адам Ламберт — самы вядомы выпускнік знакамітага тэлешоу American Idol, які атрымаў сусветную славу і прызнанне. На некалькіх апошніх канцэртах быў вакалістам культавага гурту Queen. Білеты — ад 460 тысяч да 1 мільёна рублёў.

## ТЭАТРЫ

### «Арабская ноч»




**Прэм’ера ў Купалаўскім.** «Арабская ноч» — гэта таямнічая гісторыя з лёгкім усходнім каларытам, у якой з’ядналіся лёсы пяці малазнаёмых жыхароў сучаснага гарадскога квартала. Усе яны ў спякотны летні вечар воляю лёсу апынуліся ў адным і тым жа шматпавярховым жылым доме, каб перажыць ланцужок непрадказальных падзеяў на мяжы явы і сну. 13 і 14 лютага. Малая сцэна канцэртнай залы «Мінск» (Кастрычніцкая,5).

### 14 сакавіка

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Анюта»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 15 сакавіка

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Оперы і балета** — «Анюта»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 16 сакавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядыы»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 17 сакавіка

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядыы»
**Беларускай драматургіі** — «Французская вясна»

### 18 сакавіка

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 19 сакавіка

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 20 сакавіка

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 21 сакавіка

**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм’еры»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 22 сакавіка

**Лялек** — «Дзяды»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм’еры»
**Юнага гледача** — «Міхалова зямля»

## КІНО

### Оз: Вялікі і Жахлівы

**Жанр:** прыгоды, фэнтэзі
**Рэжысёр:** Сэм Рэймі
**Акцёры:** Рэйчэл Вайс, Джэймс Франка, Мішэль Уільямс, Міла Куніс, Эбігейл Спэнсар
ЗША, 2013, 127 хв.

Калі ўраган закідае цыркавога штукара Оскара Дыгса з пыльнага Канзаса ў чароўную краіну Оз, схільны да махлярства цыркач мяркуе, што ён злавіў поспех за хвост, бо з дапамогай сваіх трукаў ён з лёгкасцю можа здабыць у новых землях і славу, і багацце. Аднак яго чакае сустрэча з трыма чарадзейкамі — Тэадорай, Эванорой і Глендай, — якія сумняюцца ў тым, ці той гэта вялікі чараўнік, з’яўлення якога чакалі легкаверныя жыхары краіны Оз. Воляй-няволяй прышэлец аказваецца ўцягнутым у супрацьстаянне эпічнага маштабу, і яму даводзіцца выкарыстоўваць увесь свой «магічны» арсенал.



# Хахулін лёс

Пры канцы мінулага тыдня было афіцыйна абвешчана пра знікненне ў Беларусі яшчэ аднаго віду нашай фаўны — хахулі, або, на лаціне, — Desmana moschata.

Хахуля, сучасніца мамантаў, захавалася амаль без зменаў цягам дзясяткаў мільёнаў гадоў. Найбліжэйшыя хахуліны суродзічы — вожыкі і буразубкі.

Беларуская назва «хахуля» ўтвораная ад старажытнаславянскага дзеяслова «хухаці» («смярдзець, тхнуць»), з якога ўтварыўся беларускі дзеяслоў «хукаць» (выдыхаць цёплае паветра, грэць, дыхаючы цёплым паветрам). Жывёла так была званая спрадвеку ў нашым народзе з-за характэрнага мускуснага паху. А яе лацінскае імя desmana можна перакласці як мускусны пацук.

Хахулі шырака жылі ў Пасожжы і ў Падняпроўі. Але ўжо ў 1951 яны вадзіліся толькі на рацэ Асцёр на Магілёўшчыне. У 1955—1962 хахуляў інтрадукавалі, завозячы з Расіі і выпускаючы ў Глускім, Пухавіцкім, Чачэрскім раёнах. Але праз некалькі гадоў іх там ужо не выяўлялі. Праўда, у 1982 яе заўважылі на Пцічы. Хахуля як рэлікт нязменна мела асабліва ахоўны статус, з-за сваёй унікальнасці і надзвычайнай каштоўнасці футра і мускусных залозаў. Яна была заўжды ў Чырвоных кнігах СССР і БССР.

Зрэшты, як і ва ўсіх іншых выпадках, з якога краю ні вазьмі, словазлучэнне «ахоўваецца дзяржаваю» не нясе ў сабе аніякага сур’ёзнага сэнсу. Шмат у каго яно выклікае адно горкую іронію.

Драматычны вынік сваёй прыродаахоўнай дзейнасці канстатавалі ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў: «Спецыяльных даследаванняў ніхто не праводзіў, але з Чырвонай кнігі звярка выключылі як зніклы від», — афіцыйна паведамілі чыноўнікі.

У Міністэрстве аховы навакольнага асяроддзя не сталі ўдавацца ў сутнасць сваёй ахоўнай дзейнасці, прыводзіць прыклады, аналізаваць тое, што рабілася для зберажэння ў Беларусі рэліктавай хахулі. А вось вінаватага знайшлі — амерыканскую норку!

Гэта справядліва часткова, бо таксама шкодзяць хахулі і андатры, але перадусім — людзі, якія каналізавалі рэкі, браканьерацць з электравудамі, разбураюць берагі з норкамі хахуляў.

Тым часам у суседняй Расіі некаторыя захады, каб стабілізаваць папуляцыю хахуляў, робяцца. Найперш — гэта правядзенне шырокіх мерапрыемстваў па іх рассяленні. Заўважана, што хахулі выдатна пачуваюцца ў суседстве з баброй, бо сілкуюцца па-рознаму, а бабры пры тым адпужваюць хахульчыных канкурэнтаў. Бабры раздражняюць рыбакоў-браканьераў, якія не могуць паставіць свае сеткі паблізу ад іх хатак. А хахулям гэта вельмі дарэчы. Да таго ж, норамі баброў яны бяспечна падарожнічаюць паміж сваімі ўласнымі норамі. У сваю чаргу, хахулі ядуць слімакоў, якія з’яўляюцца носьбітамі небяспечных для баброў паразітаў. Дачыненні гэтых жывёлаў відавочна адзначаны ўзаемнай павагай: апісаны выпадак, калі хахуля забралася на спіну бабра, і той паблажліва цярпеў такога пасажыра...

А чыноўнікі яшчэ папярэдзілі, што амерыканская — шкодная — норка можа стаць вінаватай у знікненні яшчэ шэрагу відаў — еўрапейскай норкі, тхара, куніцы, белай курапаткі. Вядома ж, было б жаданне, можна было і ўсе гэтыя віды, разам з хахуляй, вярнуць назад у нашую прыроду, як і колісь звычайных у нас дропата, лань, лясного ката... Але жадання няма! Як няма жадання адбудаваць Фару Вітаўта ў Гродне.

Што Чырвоная кніга, з якой можна выкідаць любыя віды фаўны, што дзяржаўны Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў нічога не гарантуюць ні аб’ектам аховы, ні нам. Часам здаецца, што і беларусы, пакладаючыся на бяздзейнае і безыніцыятыўнае чынавенства, могуць, урэшце, паўтарыць лёс хахулі — знікнуць з уласнай зямлі.

**Сяргей Харэўскі**



**За апошнія сто гадоў з тэрыторыі Беларусі зніклі**

наступныя віды фаўны: хахуля, расамаха, лясны кот, чорны матыль Апалон, малюск Жамчужніца звычайная, балтыйскі асетр, выразуб, дропаты. З’явіліся — амерыканская норка, андатра, янот-паласкун, янотападобны сабака.

**Моды**

## Амерыканскі вытворца робіць сувеніры з Лукашэнкам, КДБ і «Пагоняй»

У асартыменце дзясяткі выяваў **беларускай тэматыкі**.

Амерыканская стартап-кампанія Zazzle.com, якая некалькі год таму пачала выробляць прадукцыю з беларускай нацыянальнай і афіцыйнай сімволікай, пашырыла свой беларускі асартымент.

Кампанія па-ранейшаму выпускае прадукцыю з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам. Разам з тым, вырасла колькасць тэмаў: напрыклад, выявы Мірскага замка, Марка Шагала, назвы і гербы беларускіх гарадоў.

Значна вырасла і колькасць афіцыёзных матываў, некалькі разоў трапляецца слова «Белоруссия», а таксама кліентам прапануюцца цішоткі з сімволікай беларускага КДБ і выявамі Лукашэнкі з подпісамі «Маладзец» і «Ненавіснікі могуць ненавідзець».

Да палітычнай прадукцыі можна далучыць цішоткі з сімволікай Партыі БНФ.

**Сямён Печанко**




## Беларусы з сэксам не спяшаюцца

Людзі рана пачынаюць займацца сэксам? Аказваецца, **гэта стэрэатып**.

Як выявіла даследаванне Белстата, 33% мужчын і 36% жанчын не мелі сэксуальнага вопыту да 24 гадоў.

Гэта значыць, што пачатак сэксуальнага жыцця ў іх прыйшоўся на час, нашмат пазнейшы за армейскую службу і ўніверсітэт.

З іншага боку, 0,7% маладых жанчын і 3,4% маладых мужчын мелі першы сэксуальны вопыт ва ўзросце да 15 гадоў.

Даследаванне Нацыянальны статыстычны камітэт правёў з дапамогай Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЭФ).

Варта адзначыць, што ў цэлым час першага сэксуальнага кантакта, вядома, зніжаецца. Так, на працягу 12 месяцаў, якія папярэднічалі даце правядзення даследавання, 39% дзяўчат і 69% хлопцаў ва ўзросце 15—24 гадоў мелі сэксуальны кантакт з нясталым партнёрам.Сярод такіх хлопцаў 82% пры гэтым выкарыстоўвалі прэзерватыў. А сярод дзяўчат — 69%.

**Сямён Цыбульскі**

**Здароўе**

## Амерыканскім дактарам, магчыма, удалося другі раз у гісторыі вылечыць ВІЧ

У двухгадовага дзіцяці. Імя і пол дзіцяці не раскрываюцца, вядома толькі, што яно нарадзілася і жыве ў штаце Місісіпі. Ужо каля года дзіця не прымае лекаў і пры гэтым не дэманструе ніякіх прыкметаў віруса. Гарантаваць, што хвароба не вернецца, лекары пакуль не могуць, але калі гэтага не здарыцца, гэта будзе другі выпадак лячэння ад ВІЧ у гісторыі.

Медыкі не могуць з упэўненасцю сказаць, у чым прычына поспеху. Відаць, рэч у тым, што медыкаментозную тэрапію дзіцяці пачалі раней, чым гэта бывае звычайна, — менш чым праз 30 гадзін пасля нараджэння.

На сёння дактарам толькі раз удалося перамагчы вірус імунадэфіцыту, аднак у тым выпадку пацыент праходзіў іншае, больш рызыкоўнае лячэнне — яму перасадзілі касцявы мозг ад донара, які належыць да той нешматлікай групы людзей, якія валодаюць натуральным імунітэтам супраць ВІЧ.

**СГ**

## Прыватныя абвесткі

**КВАТЭРА**

**Маладая пара здыме кватэру ў Мінску.** Віталь (029) 614-81-89, Ангеліна (029) 845-78-25. Парадак і своечасовую аплату гарантуем.

**ЗАНЯТКІ**

**Бясплатныя заняткі для школьнікаў 7—10-х класаў** па вуснай і пісьмовай беларускай мове з вядомымі філолагамі, а таксама па гісторыі са знакамітымі гісторыкамі ў мінскай сядзібе Таварыства беларускай мовы (вул. Румянцава, 13, ст. метро «Плошча Перамогі»).

**ВІНШУЮ**

**Віншую маіх настаўнікаў** Лявона Баршчэўскага і Анатоля Сідарэвіча з днём нараджэння. Жадаю Вам шчасця, здароўя і плённай працы на ніве беларушчыны. Усяслаў Шатэрнік.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



**Традыцыйнае беларускае вяселле зладзіла беларускамоўная пара — Наталля і Дзяніс. У такіх самых строях, з такімі ж пачастункамі беларусы ладзілі вяселле сто гадоў таму.**



**У Чэхіі прайшла інаўгурацыя новага прэзідэнта — Мілаша Зэмана. Сацыял-дэмакрат Зэман — першы абраны шляхам усеагульных выбараў прэзідэнт Чэхіі. Раней кіраўніка краіны абіраў парламент.**



**Жорсткі мінскі стрыт-арт.**



**У Івана-Франкоўску 9 сакавіка былі высвечаныя чатыры новыя дыяканы для Беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы: Віталь Быстроў (Івацэвічы), Аляксей Варанко (Віцебск), Вячаслаў Гарчакоў (Івацэвічы), Аляксей Філіпенка (Мінск).**

## Анекдоты і жарты

* * *

Увесь свет — тэатр! А мы заблукалі ў цырку.

* * *

У будынку, дзе зачынілі Макдональдс, па начах чуваць голас «Свабодная каса».

* * *

Дзве сяброўкі:

— У цябе муж жаваранак ці сава?

— У мяне муж — мядзведзь: рана кладзецца, позна ўстае і ўсё роўна нявыспаны...

* * *

Як знайсці сапраўдную жанчыну?

1. Разганіце каня.
2. Падпаліце хату.
3. Чакайце...

* * *

Калі прэзідэнту перабегла дарогу чорная котка, то непрыемнасці будуць не толькі ў яго, але і ва ўсёй краіны.

* * *

— Ты схуднела.

— Прыемна, але ты, напэўна, гэта ўсім кажаш.

— Толькі тоўстым.

* * *

Кожны доктар рана ці позна адкрывае маленькія могілкі. А кожны выкладчык — маленькі ваенкамат.

* * *

Калі б чалябінскі метэарыт ведаў, як з яго будуць сцябацца ў інтэрнэце, то не паляцеў бы на зямлю.

* * *

Студэнты медыцыны, вывучаючы лаціну, выпадкова выклікалі д'ябла.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Вілейцы** селянін Вайтовіч пабудаваў вятрак і пусціў яго ў ход. Калі млын пайшоў, сам Вайтовіч з другімі астаўся ў ніжнім паверсе, а вясковыя хлопчыкі Пётар Гамолка (10 гадоў) і Андрэй Чарапок (12 гадоў) цішком узлезлі па лесвіцы да чыгуннага каляса, каляса гэтае ўдарыла хлопчыка Гамолку па галаве і на месцы забіла.

**«НН». №11. 1913.**

**Самы кароткі марш.** Чатыры тысячы чалавек выйшлі ў Мінску на «Марш за лепшае жыццё» — менш, чым чакалі арганізатары. Кардоны спецназа загарадзілі людзям дарогу ў цэнтр. Сярод затрыманых — Цімох Дранчук, Людміла Гразнова, Зміцер Бандарэнка і Андрэй Саннікаў.

**«НН». №10. 2003.**


**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8050. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 12.03.2013.
Замова №1148.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12